Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 38 (4838) 25 верасня 2015 г.


Пісьменніцы… трынаццаць



Тэматычныя развагі



Кандзінскі. Невядомае



У ракурсе — бібліятэка


## Пункцірам

✔ 22 — 23 верасня ў Мінску праходзіў IV Форум маладых журналістаў «Агульны погляд у будучыню. Журналістыка: выбар маладых». Каля 150 прадстаўнікоў СМІ Беларусі, больш як 120 з іх — з рэгіёнаў, узялі ўдзел у мерапрыемстве. Праграму форуму распачала фотавыстаўка БелТА «Суверэнная Беларусь: эпоха дасягненняў», якая адкрылася ў канцэртнай зале «Верхні горад».

✔ Лаўрэат шматлікіх музычных конкурсаў мінчанін Ягор Шаранкоў атрымаў Гран-пры конкурсу выканаўцаў маладзёжнай песні X Міжнароднага фестывалю «Моладзь — за Саюзную дзяржаву», які завяршыўся ў Растове-на-Доне.

✔ Амаль 50 прадстаўнічых гасцей запрошаны на юбілейныя ўрачыстасці да 250-годдзя з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага, якія праходзяць сёння ў музеі-сядзібе ў Залессі (Смаргонскі раён). Ганаровыя госці — нашчадкі Агінскага па лініі дачкі Амеліі з Польшчы.

✔ Найстарэйшы спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Паўлінка» (ідзе на сцэне тэатра больш як 70 гадоў) завяршыў праграму XX Міжнароднага тэатральнага фестывалю «Белая вежа». Купалаўскі тэатр двойчы станавіўся ўладальнікам Гран-пры фэсту.

✔ X Гродзенскія навуковыя чытанні з удзелам навукоўцаў, супрацоўнікаў музеяў, бібліятэк і архіваў, гісторыкаў, пісьменнікаў, журналістаў прайшлі ў абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Карскага. Сёлета канферэнцыя была прысвечана 240-годдзю Гродзенскай каралеўскай друкарні.

✔ Учора ў сталічным кінатэатры «Масква» адбылася прэм'ера мастацкага фільма «Мы, браты...», экраннае жыццё якога пачалося 13 верасня з кінафестывалю ў Анапе. Беларускі фільм распачынаў праграму XXIV Адкрытага фестывалю кіно краін СНД, Латвіі, Літвы і Эстоніі «Кінашок».

✔ Каля 400 майстроў Мінскай вобласці бралі ўдзел у другім свяце рамёстваў «Слуцкія паясы», у межах якога адбыўся абласны конкурс «Беларуская лялька» і канферэнцыя «Традыцыйныя рамёствы Міншчыны: сучасны стан, асаблівасці бытавання, тэндэнцыі развіцця».

✔ Заяўкі на ўдзел у турыстычным конкурсе «Спазнай Беларусь» прымаюцца да 2 кастрычніка. Адна з самых папулярных намінацый — «Я спазнаю Беларусь». Перамагчы можа любы актыўны вандроўнік — неабходна толькі зрабіць максімальную колькасць фотаздымкаў на фоне турыстычных аб'ектаў краіны.

✔ У навукова-даследчай установе культуры «Браслаўскае раённае аб'яднанне музеяў» дзейнічае выстаўка «Дзесяць стагоддзяў гісторыі Браслава», прысвечаная 950-годдзю горада. У аснове экспазіцыі — калекцыя археалагічных знаходак са старажытнага гарадзішча Замкавай Гары, матэрыялы пра асоб, якія мелі дачыненне да мінулага Браслава.

ISSN 0024-4686
9 770024 468001 15038


Фота Аліны Саўчанка.

Сцэна са спектакля «Сфінкс» падчас святочнага вечара да 95-годдзя Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

# Сезоны легендарнай сцэны

**Найстарэйшы тэатр Беларусі адзначае юбілей. З 95-годдзем з дня заснавання калектыў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы павіншаваў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.**

Урачыстасці пачаліся цырымоніяй гашэння паштовай маркі «Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы» з серыі «Тэатры Беларусі» ў прысутнасці творчага кіраўніцтва і артыстаў тэатра. А святочным вечарам на галоўнай сцэне Купалаўскага адбылася вялікая імпрэза ў двух актах. Спачатку была паказана пастаноўка «Сфінкс» Актава Фелье. Упершыню гледачы тэатра ўбачылі яе ў 1890 годзе. Да нядаўняга часу п'еса лічылася страчанай, але ў гэтым годзе яе знайшлі ў тэатральнай бібліятэцы Санкт-Пецярбурга. Спектакль падрыхтавалі спецыяльна для юбілею. Другая палова вечара ўяўляла сабой своеасаблівы «капуснік» з рэтраспектывай легендарных спектакляў, якія ўжо не ідуць на сцэне Купалаўскага: «Трыбунал», «Памінальная Малітва», «Гаральд I Мод», «Тутэйшыя» і інш.

Датай заснавання Купалаўскага тэатра лічыцца 14 верасня 1920 года, калі ў будынку гарадскога тэатра па вуліцы Энгельса ў Мінску быў заснаваны Беларускі дзяржаўны тэатр. Сваё поўнае імя ён здабыў пазней. Вялікая Айчынная вайна заспела трупу тэатра падчас гастроляў у Адэсе, адкуль, не вяртаючыся ў Мінск, давялося ехаць у Томск. Ужо там у 1944-м рэжысёр тэатра Леў Літвінаў паставіў знакамітую «Паўлінку» Янкі Купалы, якая стала пасля візітнай карткай. У той жа год тэатру было прысвоена імя беларускага класіка.

Юбілейная дата — заўжды нагода падумаць пра тое, што было зроблена і перажыта, падвесці вынікі. Найбуйнейшай навіной апошняга часу стала завяршэнне маштабнай рэканструкцыі, якая доўжылася з 2010 па 2013 год. Галоўная мэта — вярнуць будынку знешні выгляд 1890 года. Больш як два гады праектная група працавала ў архівах, вывучаючы фотаздымкі, відэазапісы і чарцяжы, каб фасад і ўнутраны дэкор выглядалі як у XIX стагоддзі. Гардэроб для гледачоў пашырылі і перамясцілі ў цокальнае памяшканне. На ўваходзе ў бельэтаж замест рэпетыцыйнай залы з'явілася прасторнае фае, дзе размясціліся два каміны. Глядзельная зала абноўленага тэатра налічвае 360 месцаў. Сядзець стала нашмат зручней — вялікія крэслы, шырокія праходы паміж радамі. Пад крэсламі ў партэры змянілася падлога: цяпер з прыступкамі, пад ёй — сістэма вентыляцыі. На бельэтажы па чарцяжах узнавілі фігурныя перагародкі паміж ложамі. Нават аднавілі шэра-блакітную гаму інтэр'ераў. Больш чым на чатыры метры павялічылася ўглыб сцэна. Цалкам заменена тэхнічнае абсталяванне.

Не зважаючы на салідны ўзрост, тэатр актыўна карыстаецца сучаснымі тэхналогіямі. Запусцілі абноўлены сайт *kupalauski.by* (лаўрэат інтэрнэт-прэміі *ТІВО*). Квіткі за некалькі хвілін можна купіць анлайн. Для замежных карыстальнікаў створана англамоўная версія сайта. А з мінулага сезона гледачам даступная паслуга прагляду спектакляў з сінхронным перакладам на англійскую мову.

Чытайце на стар. 2

## Дайджэст

• Агата Крысці працягвае здзіўляць: зноў выявіліся згубленыя творы. Гэтым разам — радыёп'есы. Унук пісьменніцы Мэцью Прычард лічыць знаходку цудоўным адкрыццём. У гэтых п'есах, на яго думку, адчувальная атмасфера таго часу (запісваліся пастаноўкі паўстагоддзя таму), пры гэтым якасць гуку — крышталёва чыстая. Рарытэтныя запісы знайшлі Чарльз Нортан ды архівісТ Бі-бі-сі Шон Вайтан. Аўдыязапісы ўжо алічбаваныя, таму англічане змогуць набыць радыёспектаклі ў фармаце CD. У іх ліку — «Сметанковае масла ў блюдзе барына» (1948), «Асабістае тэлефанаванне» (1960).

• Маскоўская Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш 2015 падвяла вынікі. Сёлета на ВДНГ прайшло больш за 500 мерапрыемстваў. Больш як 100 000 наведвальнікаў, каля 400 выдавецтваў з 30 краін свету. Усё гэта — за пяць дзён працы. Сярод найбуйнейшых праектаў выстаўкі — пісьменніцкі форум «Літаратурная Еўразія», Расійска-кітайскі літаратурны форум, штогадовая галіновая канферэнцыя «Кніжны рынак-2015».

• Андрэй Канчалоўскі ставіць «Вішнёвы сад» у тэатры імя Массавета. Менавіта гэтая пастаноўка стане першай прэм'ерай 93 сезона ў названым тэатры. Рэжысёр зазначыў, што праца з творами А. Чэхава — велізарная адказнасць, бо ў кожным слове класіка спалучаецца камічнае і трагічнае.

• Па рамане «Пікнік на ўзбочыне» братоў Стругацкіх будзе зняты серыял. Прынамсі, рэжысёр Алан Тэйлар выявіў такое жаданне, і падтрымае яго, хутчэй за ўсё, амерыканскі кабельны канал *WGN America*. Гэтаксама да праекта далучацца *Sony Pictures TV* і *Tribune Studios*. Алан Тэйлар набыў вядомасць дзякуючы працы над такімі папулярнымі праектамі, як «Тэрмінатар: Генэзіс» і «Гульня тронаў». Сцэнарыст для кінаадаптацыі рамана ўжо знойдзены — Джэк Паглен.

• Англійскі пісьменнік Фрэдэрык Форсайт зрабіў дзве заявы: па-першае, ён скончыў працу над аўтабіяграфіяй; па-другое, цягам 20 гадоў ён працаваў на брытанскую разведку, шырока вядомую як MI6. Цяпер майстэрства пісьменніка ў апісанні шпіёнскіх будняў стала зразумелым.

• Да 125-годдзя Восіпа Мандэльштама ў Маскве плануюць назваць вуліцу ў гонар паэта. З такой прапановай звярнуцца да ўлад горада прадстаўнікі аргкамітэта па правядзенні мерапрыемстваў да юбілею творцы. На сёння ў Расіі ўвогуле няма вуліцы імені Мандэльштама.

• Газета *Washington Post* паведаміла: чвэрць стагоддзя ФБР віжавала за Габрыэлем Гарсія Маркесам. Пачалося пільнаванне ў 1961 годзе, калі пісьменнік прыбыў у Нью-Ёрк з жонкай і сынам як супрацоўнік кубінскага інфармагенцтва *Prensa Latina*. Тады Маркесу было 33 гады, ён лічыўся сябрам Фідэля Кастра. Загад віжаваць за пісьменнікам аддаў тагачасны кіраўнік ФБР Эдгар Гувер. Па просьбе выдання, ФБР апублікавала 137 старонак дасье на Маркеса, што вялося цягам 24 гадоў. Яшчэ 133 старонкі застаюцца засакрэчанымі.

*Стасункі*

# «Жэньмінь жыбаа» і «Звязда»: сяброўства і падтрымка

**У Пекіне вядучыя СМІ Беларусі — газеты «СБ. Беларусь сегодня», «Звязда» і БелТА — падпісалі мемарандумы аб узаемаразуменні і супрацоўніцтве з рэдакцыяй самай тыражнай у Азіі газеты «Жэньмінь жыбаа».**

— Удзел у міжнародным інфармацыйным форуме «Адзін пояс, адзін шлях» дае магчымасць пазнаёміцца з кітайскімі інфармацыйнымі механізмамі, яшчэ больш выразна ўсвядоміць іх «кітайскі складнік» у прапагандзе Эканамічнага пояса Вялікага Шаўковага шляху, — распавядае дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч. — «Жэньмінь жыбаа», нягледзячы на свой велізарны наклад, шукае надзейных партнёраў у распаўсюджванні кампетэнтнай інфармацыі аб кітайскіх ініцыятывах па будаўніцтве міралюбівай эканамічнай супольнасці.

У форуме ўзялі ўдзел больш як 150 кіраўнікоў і вядучых журналістаў СМІ з 60 краін свету. У межах мерапрыемства, арганізаванага кітайскай газетай, «звяздоўская» дэлегацыя пабывала ў 2-м Пекінскім дзяржаўным універсітэце замежных моў, дзе пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у КНР арганізаваны і паспяхова працуе Цэнтр даследавання Беларусі.

Што характэрна, у цэнтры ёсць добрая бібліятэка сучаснай беларускай літаратуры. Большую частку яе займае серыя «Бібліятэка саюза пісьменнікаў Беларусі». Дарэчы, кнігі былі перададзены ў свой час творчым саюзам для беларускага пасольства ў Кітаі. Дзеянне дамовы, падпісанай з «Жэньмінь жыбаа» «Звяздой», як і з іншымі беларускімі СМІ, разлічана на тры гады. Але, несумненна, сам дакумент — толькі пачатак рэалізацыі многіх двухбаковых беларуска-кітайскіх інфармацыйных ініцыятыў. І ў першую чаргу — у галіне абмену як навінамі, так і аналітычнымі матэрыяламі з дапамогай інтэрнэту і сацыяльных сетак.

Будзем спадзявацца, што ўбаку ад гэтай працы не застануцца і беларускія літаратурна-мастацкія выданні.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА,**
**г. Пекін, Кітай**

# Працяг кітайскіх літаратурных ініцыятыў

**У Выдавецкім доме «Звязда» пабывала намеснік дырэктара Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта спадарыня Лю Сулін.**



*Фота Яўгена Пясецкага.*

*У гасцях — спадарыня Лю Сулін.*

На сустрэчы, у якой з беларускага боку ўзялі ўдзел дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч і намеснік дырэктара — галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота, абмяркоўваліся пытанні беларуска-кітайскага літаратурнага супрацоўніцтва. Спадарыню Лю Сулін праінфармавалі пра тыя выданні кітайскіх аўтараў, якія былі здзейснены ў Выдавецкім доме «Звязда» апошнім часам. А гэта серыя з чатырох паэтычных зборнікаў «Светлыя знакі: паэты Кітая», анталогія кітайскай літаратуры XX стагоддзя на беларускай мове «Стагоддзе на знаёмства», а таксама аўтарская анталогія Міколы Мятліцкага, складзеная з перакладаў кітайскай паэзіі, — «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая».

Супольна з Рэспубліканскім інстытутам кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ «Звязда» выпусціла кнігу «Беларусь вачыма кітайцаў» і «кітайскі» нумар часопіса «Нёман», дзе прадстаўлена проза маладых пісьменнікаў Паднябеснай. Традыцыйна матэрыялы, якія расказваюць пра кітайскую літаратуру, кітайскіх пісьменнікаў, змяшчаюцца і ў часопісах «Полымя», «Маладосць», газеце «Літаратура і мастацтва».

Цяпер у «Звяздзе» ідзе праца над зборнікам вершаў Лі Хэ. Укладальнік і аўтар большасці перакладаў — старшы выкладчык кафедры ўсходніх моў факультэта міжнародных адносін БДУ Алена Раманоўская. Работа па перакладу ўзгаднена мастацкага свету славутага кітайскага паэта ідзе з арыгінала, з кітайскай мовы. Другая тэма, якая абмяркоўвалася падчас сустрэчы, — падрыхтоўка новага выпуску «Нёмана» з перакладамі сучаснай кітайскай прозы на рускую мову. Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ становіцца надзейным партнёрам беларускага боку ў справе пашырэння беларуска-кітайскіх літаратурных сувязей.

**Сяргей ШЫЧКО**

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# Сезоны легендарнай сцэны

Нягледзячы на тое, што тэатр на некалькі год застаўся без уласнай сцэны і быў вымушаны працаваць на арандаваных пляцоўках Палаца культуры прафсаюзаў, Дома афіцэраў, канцэртнай залы «Мінск», за апошнія пяць год у Купалаўскім адбылося 12 прэм'ер, выйшла абноўленая сцэнічная версія «Паўлінкі». З прыходам у 2009 годзе на пасаду мастацкага кіраўніка рэжысёра Мікалая Пінігіна тэатр скіраваў сваю ўвагу на знаёмства гледачоў з малавядомай нацыянальнай культурай: творамі заснавальніцы беларускага прафесійнага тэатра Францішкі Уршулі Радзівіл, заходнебеларускім кабарэ, гісторыяй Беларусі праз знакамітую паэму Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

Насычаным было і гастрольнае жыццё купалаўцаў: Варшава, Кіеў, Ульянаўск, Рыга. Залы Мадрыда, Шэрбурга, Парыжа ды іншых французскіх гарадоў прымалі наша «Вяселле». Лондан бачыў «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл». «Пана Тадэвуша» паказалі ў Парыжы. У трэці раз пасля Вялікай Айчыннай вайны Купалаўскі вярнуўся ў Томск — горад, які ўратаваў тэатр у 1940-я. Купалаўцы першымі прадставілі драматычнае мастацтва Беларусі ў Кітаі на Пекінскім тэатральным вясновым фестывалі ў сакавіку 2013 года.

У лістападзе ў Мінску адбудзецца другі Маладзёжны тэатральны форум краін СНД, Балтыі і Грузіі. Гран-пры першага форуму ў чэрвені 2012 года атрымаў спектакль «Офіс» у пастаноўцы Кацярыны Аверкавай.

Важнай падзеяй для ўсёй краіны стала з'яўленне Нацыянальнай тэатральнай прэміі. Спектакль «Не мой» у пастаноўцы Аляксандра Гарцуева стаў пяцікратным лаўрэатам. Ганаровую статуэтку атрымала і пастаноўка «Выкраданне Еўропы». Дзяржаўнай прэміяй Беларусі ўганараваны спектакль «Пінская шляхта» ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна. Шматлікімі ўзнагародамі адзначаны не толькі агульны ўнёсак тэатра, але і індывідуальная праца акцёраў. Званне народнага артыста атрымалі Віктар Манаеў, Зінаіда Зубкова. Заслужанымі артысткамі Беларусі названыя Тамара Міронава і Алена Сідарава.

Новы сезон Купалаўскі пачынае з запуску Камернай сцэны — пляцоўкі на 90 глядацкіх месц для невялікіх спектакляў. Рыхтуецца некалькі прэм'ер — «Шабаны» Альгерда Бахарэвіча, «Антыгона» Жана Ануя і «АРТ» Ясміны Рэза.

**Таццяна ШЫМУК**

За падзеяй

# Герой у люструнку оперы

**Сёння ў Маладзечне прэм'ера, значная і знакавая. На сцэне гарадскога Палаца культуры разгорнуцца падзеі двухактовай рамантычнай оперы «Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт».**

Зрэшты, два яе першыя аншлагавыя паказы, якія прыцягнулі ўвагу шматлікіх месцічаў ды жыхароў суседніх раёнаў, сталічнай інтэлігенцыі, замежных дыпламатаў, адбыліся тут яшчэ ў снежні 2013 года.

З таго часу «біяграфію» твора папаўняла чарада іншых важных падзей, а вось магчымасці наладзіць новы паказ на маладзечанскай сцэне ўсё не было. Так што ў самы знамянальны дзень Года Агінскага спектакль вяртаецца на сваю радзіму, не растраціўшы прэм'ернага духу.

І задума, і ажыццяўленне пастановачнага творчага праекта звязаны менавіта з гэтым самабытным горадам, дзе ёсць помнік М. К. Агінскаму, усталяваны побач з Маладзечанскім дзяржаўным музычным каледжам, які носіць яго імя. Выбітная постаць героя рэальнай гісторыі ўвасоблена цяпер у яркім, складаным і прывабным вобразе галоўнага персанажа сучаснага музычнатэатральнага твора. Опера «Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт» сталася плёнам грунтоўнай трохгадовай працы таленавітых сутворцаў — кампазітара Алега Залётнева, аўтара лібрэта і рэжысёра-пастаноўшчыка Сяргея Макарэя, музычнага кіраўніка і дырыжора, дырэктара Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа Рыгора Сарокі. (Дарэчы, ідэя праекта належыць ініцыятыўнаму маэстра Сароку, які знайшоў шчырых спадзвіжнікаў, каб «дапоўніць» бронзавы манумент і стварыць другі помнік выдатнаму земляку — сродкамі высокага жанру музыкі.)

Узяўшыся за тэму, не распрацаваную ў мастацкай творчасці, яны прынялі на сябе нялёгкі чын першапраходцаў. Кіруючыся дакументальнымі крыніцамі, мемуарнай літаратурай, навуковымі даследаваннямі ды ўласнай фантазіяй, майстры, абазнаныя ў законах музычнай драматургіі ды ў сакрэтах опернага жанру, прыдумалі самастойны, арыгінальны і пераканаўчы сюжэт. У аснове — драматычная кульмінацыя жыцця Міхала Клеафаса ў Залессі, дзе прамінулі яго самыя шчаслівыя гады. Цяпер ён сам-насам са сваёй памяццю і адзінотай, хаця па-ранейшаму адкрыты і шчодры з гасцямі, паблажлівы да непрыстойных выбрыкаў пажадлівай жонкі, спагадны да творчых памкненняў пляменніка. Князь гатовы пазіраваць мастаку для параднага партрэта і нават настроены на сур'ёзныя заляцанні да італьянскай опернай дзівы.

**Заканчэнне на стар. 16 ▶.**

Імпрэзы

# Рыфмы духоўныя

Юбілейны творчы вечар пісьменніцы, галоўнага рэдактара газеты «Воскресение», члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Алены Міхаленка «Я — не чужая» прайшоў у сталічным Доме літаратара. У межах імпрэзы адбылася і прэзентацыя аднайменнага паэтычнага зборніка творцы.

Намеснік старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Наталія Касцючэнка прачытала некалькі вершаў паэтэсы з кнігі «Я — не чужая». Ад імя МГА СПБ віноўніцу ўрачыстасці павіншаваў старшыня аддзялення Міхась Пазнякоў. А. Міхаленка атрымала медаль «За вялікі ўклад у літаратуру». Мелі слова духоўны папячыцель газеты «Воскресение», настаяцель прыхода ў гонар святога Іаана Кранштацкага іерэй Алексій Хацееў ды паэт і галоўны рэдактар часопіса «Новая Немига литературная» Анатоль Аўруцін.

Алена Міхаленка распавяла пра сябе, прачытала ўласныя вершы. «Было радостно и естественно / По заборам лазить с мальчишками, / Упиваться мечтами детскими / И отличными добрыми книжками…» Творы пісьменніцы гучалі таксама з вуснаў актрыс Алены Шабат ды Ірыны Нарбекавай, а песні на яе словы — у выкананні маладзёжнага хору «*Visson*» (мастацкі кіраўнік — Алёна Высоцкая), барда Алены Маслоўскай і выхаванак сацыяльнага прытулку Завадскога раёна сталіцы, паэтэсы і барда Таццяны Дашкевіч, акцёра і педагога Яўгена Піменава.

Завяршыўся вечар адмысловай канцэртнай праграмай, якую прадставіла на сцэне Дома літаратара вакальная група «Тимпан»: у выкананні салістаў прагучалі песні, створаныя кампазітарам Уладзімірам Казбанавым на вершы Алены Міхаленка.

***

Творчая вечарына старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, пісьменніка Міхася Пазнякова адбылася ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 1 у межах фестывалю «Дні праваслаўнай культуры».

«Нацыянальная ідэя, усё прыгожае, вечнае пачынаецца з душэўнага, з духоўнага — культуры, літаратуры, кнігі… Трэба, каб у душы была вера — яна робіць чалавека чалавекам», — упэўнены Міхась Паўлавіч. Публіцы ён прадставіў свае вершы, прасякнутыя патрыятызмам, любоўю да роднага краю.

Падчас імпрэзы мела слова актрыса Алена Шабат, чыталі вершы паэтэса і перакладчык Лізавета Палеес, паэт, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Нёман» Уладзімір Мазго і паэт, галоўны рэдактар часопіса «Новая Немига литературная» Анатоль Аўруцін. Музычны падарунак М. Пазнякову падрыхтавалі кліросны хор прыхода храма Раства Іаана Прадцечы, кліросны хор храма ў гонар святога апостала Андрэя Першазваннага, Камерны хор «Класіка», паэтэса і бард Таццяна Дашкевіч, эстрадны спявак і кампазітар Сяргей Кравец.

**Яна ЯВІЧ**

Вернісаж

# Фантастычны рэалізм!

У Мемарыяльным музеі-майстэрні Заіра Азгура адкрылася выстаўка сучаснага беларускага скульптурнага партрэта «Не 1/8». Экспазіцыя сутыкае гледача з нерэалістычным мастацтвам, дзе ён мусіць выйсці па-за стэрэатыпнае ўспрыняцце рэчаіснасці.

У назве праекта «Не 1/8» — алюзія на тое, што звыклае для акадэмічнай класічнай скульптуры ўяўленне аб прапорцыях чалавечага цела будзе парушана. Кожны экспанат — далёка за межамі стэрэатыпнага меркавання пра скульптурны партрэт. Гэта не ўвасабленне «чалавечага», гэта — адлюстраванне адбіткаў жыцця, натуры, якая паказана праз індывідуальную прызму мастака. Скульптурныя працы суправаджаюць відэа, дзе аб'ектывізуецца працэс пошуку новай формы.

«Мы аб'ядналі ў адной прасторы рэалістычнае мастацтва, якое прадстаўлена ў музеі ў вялікай колькасці, і нерэалістычнае — экспанаты «Не 1/8». Такім чынам, ствараецца кантраст. У праекце прадстаўлены працы з бронзы, каменю, дрэва і гліны. У кожнага аўтара свая мова, свая пластыка, і, фарміруючы экспазіцыю, мы стараліся ўсё гэта абыграць», — распавяла куратар выстаўкі, навуковы супрацоўнік музея Ганна Бабіч.

Прадстаўлены працы скульптараў Валянціна Борзды, Андрэя Вараб'ёва, Канстанціна Касцючэнкі, Максіма Пятруля, Уладзіміра Піпіна, Аляксандра Шапо, Васіля Цімашова.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

Форум

# Мінск — Сочы

**Нядаўна адбыўся II Форум рэгіёнаў Расіі і Беларусі, у межах якога працавала Нацыянальная выстаўка беларускіх вытворцаў. Сваю прадукцыю ў Сочы прадставілі больш як 80 айчынных прадпрыемстваў і арганізацый.**

Тэматычныя блокі сумеснай экспазіцыі дэманстравалі разнастайныя навуковыя дасягненні, прадукцыю машынабудавання, аховы здароўя, нафтахімічнай і дрэваперапрацоўчай галін, прадукцыю ваеннага значэння, тавары для насельніцтва.

Стэнд «Кнігі Рэспублікі Беларусь» даў магчымасць пазнаёміцца з найлепшымі ўзорамі кніжнай прадукцыі за апошні час. Гэта, напрыклад, фотаальбом «Беларусь замкавая», уганараваны Гран-пры на XII Міжнародным конкурсе «Мастацтва кнігі» дзяржаў — удзельніц СНД. Кнігі «Беларусь» С. Тарасава, «Беларуская нацыянальная кухня» А. Вашчанкі, «Іканапіс і алтарны жывапіс Беларусі XII — XVII стагоддзяў» Н. Высоцкай (выдавецтва «Беларусь»), серыя кніг «Залатая калекцыя беларускай літаратуры», «Блакадная кніга» А. Адамовіча і Д. Граніна (выдавецтва «Мастацкая літаратура»).

Шырока была прадстаўлена кніжная прадукцыя выдавецкага дома «Звязда». Серыя кніг «Сугучча сэрцаў», якая ўжо мае вялікую папулярнасць у межах СНД, альбом старых паштовак У. Ліхадзедава «Мінск. Падарожжа ў часе», «Праваслаўны свет» — кніга, прысвечаная 1025-годдзю хрышчэння Русі, альбом «Уладзімір Слабодчыкаў. Скульп-тура» Н. Шаранговіч.

З экспазіцыяй стэнда пазнаёміліся старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Міхаіл Мясніковіч і старшыня Савета Федэрацыі Федэральнага Сходу Расіі Валянціна Матвіенка. Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч уручыла Валянціне Матвіенка кнігу «Беларусы Масквы. XVII стагоддзе». Гэта сумесны праект выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі» і Урада Масквы, які ўяўляе сабой унікальную рарытэтную калекцыю створанага ў Маскве ў XVII стагоддзі беларускімі майстрамі.

**Вольга АЛЯКСЕЕВА**

## Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**27 верасня** — на прэзентацыю кніг Мінскага гарадскога аддзялення СПБ «Гэта наша з табой Перамога» і «Вялікай Перамозе верныя!», прысвечаных 70-годдзю Перамогі над фашысцкай Германіяй. Мерапрыемства пройдзе ў бібліятэцы в/ч 35703 (вул. Куляшова, д. 1А). Пачатак а 12-й гадзіне.

**29 верасня** — на прэзентацыю альманаха «Армія і культура» (№ 2, 2015 г.). Мерапрыемства ладзіцца ў бібліятэцы Цэнтральнага Дома афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3). Пачатак а 16-й гадзіне.

**30 верасня** — на літаратурнае свята «Маладыя — маладым», у межах якога пройдзе творчая сустрэча з пісьменніцай Янай Явіч. Імпрэза адбудзецца ў літаратурным клубе «Аўтограф» (вул. Карбышава, д. 42). Пачатак а 16-й гадзіне.

**30 верасня** — на пасяджэнне літаратурнага клуба «КЛУМбА» пры Фундаментальнай бібліятэцы Белдзяржуніверсітэта (пр. Незалежнасці, д. 4, аўд. 229), падчас якога пройдзе прэзентацыя часопіса «Белая Вежа» (№ 6, 2015 г.). Пачатак а 16-й гадзіне.

**30 верасня** — на свята паэзіі і музыкі ў межах Дзён праваслаўнай культуры. Імпрэза адбудзецца ў Нацыянальным мастацкім музеі (вул. Леніна, 20). Пачатак а 17-й гадзіне.

**1 кастрычніка** — на пасяджэнне літаратурна-мастацкага клуба «Жывое слова» пры СШ № 56 (вул. Каменагорская, 70). Кіраўнік клуба — пісьменніца Наталія Касцючэнка. Пачатак а 13-й гадзіне.

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае шчырыя спачуванні пісьменніцы Валянціне Іванаўне ЛОКУН з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці МАЦІ Евы Аляксандраўны.

Брэсцкае абласное і Мінскае гарадское аддзяленні СПБ глыбока смуткуюць і выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніцы Валянціне Іванаўне ЛОКУН у сувязі з вялікім горам — смерцю МАЦІ Евы Аляксандраўны.

Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы выказвае глыбокае спачуванне літаратуразнаўцы Валянціне Іванаўне ЛОКУН у сувязі са смерцю МАЦІ Евы Аляксандраўны.



**Марыя КОБЕЦ**

## Вераснёвы золак

*Фарбуе восень дрэвы ў акварэль.
Чырвоным,
рыжым,
жоўтым
і цагляным…
Глянь,
павучок працуе —
карусель
звівае з павуцінак апантана!
Бруіцца неба ў плынях ручая —
Ручай бруіцца плынямі аблокаў.
Шчыруе восень —
Пэндзаль спакваля
малюе карамеллю,
А навокал
разліўся золатам і чырванню ўзыход,
заранак,
золак,
залаты світанак.
Шчыруе верасень.
У фарбах пазалот
купае дрэвы ў дыяментах ранак.
Спявае птушкамі-гарэзамі зямля.
Іграюць росы колерам вясёлак.
Палае восень!
Ярка,
спакваля.
Няхай палае вераснёвы золак!*

***

*Калі заснуць палеткі у тумане,
Схаваюць твары дрогкія рамонкі,
Салоўкі пошчак забруіцца звонкі…
Шчакой ласкава разбудзі мяне.
Імгненне, дотык —
сэрца ў далані.
Пачуцця ў шчырасць,
шэпат наўздагонку.
Прымружу вочы —
пацьмянеў свет звонку…
Маю шчаку шчакой сваёй крані.*

*Пяшчотай светлай разбудзі мяне.
Хай сведкам будзе толькі наш салоўка,
Хай спяць палеткі мірна ў тумане,
Схіляюцца цнатлівыя рамонкі.*

***

*А мы…
А мы з табой маглі і размінуцца…
Хвіліна.
Крок.
Пагляд.
І вочы, вочы.
І рукі, што хацелі дакрануцца.
І вусны, што маланкамі.
А ночы,
сны —
жаданыя.
Прачнуцца
не хоціць моцы.
Дый яна не трэба.
Хвіліна.
Позірк.
Можа, азірнуцца?..
Не варта ўжо —
сплывае раптам глеба.*

*Туманіць зрок без дотыку.
Крануцца б...
Дарэмна.
Не валодаю нагамі.
І рукі ўжо не ў сілах
зварухнуцца,
І вочы — бліскавіцамі між намі.*

*...Знясіленасць.
Праз сілу — не ўсміхнуцца.
Хвіліна.
Крок.
І сэрца ўжо грукоча.
...Напэўна, лепш было б нам размінуцца!
Ды вочы,
вочы,
вочы,
вочы!*

***

*Мне неба тваё найясней,
Радзіма мая малая!
Смарагдавай ранняй вясне,
Вясковай тваёй, прысягаю!*

*Мне хмаркі твае найчысцей —
Вясёлкі ў далонях люляюць.
І сонейка посмех часцей,
Радзіма мая малая!*

*І дождж восенні цяплей —
Грыбны, гаманкі, абложны.
У ім восеньскай вохры алей
Ярчэй, прыгажэй, заможней.*

*Мне поле тваё найвальней,
Чым безліч чужых разлогаў.
І песня твая найрадней —
Тут гоман лугоў-мурогаў,
І мудрасць маіх дзядоў,
І ласка маёй матулі.
…Шчыміць.
Нібы кажа зноў:
«Хіба ж вы мэнэ забулі?»*

*Забыліся. Пэўна. Так.
Гамонку тваю сакаўную.
Няёмка ж — наўкол: «Дзівак!
Адкуль ён? І што шануе?».*

*Напраўду, шануем што? —
Чужую гамонку-мову!
Навошта? Чаму? За што
Губляем жыцця аснову?*

*…У светлым дзіцячым сне
Лагода гамонкі мамы:
«Дачушка!»
А голас той мне…
Раднейшы ён самы-самы.*

*І гоман, і песня, й разлог,
І шэрых палеткаў далі,
І тое, што даў нам Бог,
Што продкі заўжды шанавалі.*

*І неба, што мне найясней…
Радзіма мая малая,
Смарагдавай ранняй вясне,
Вясковай тваёй, прысягаю!*

***

*…Запаволіцца сэрца стук,
Бег гадзінны…
Як жывецца табе між скрух,
Край радзінны?
Ці ж пяецца табе, пра што?
Ці ж смяецца?
Што лагодзіць душу, а што
Не ўдаецца?*

*Чым сілкуеш сваіх сыноў,
Чым мацуеш?*

*Бачу — хмары збіраюцца зноў.
Пэўна, чуеш —
Завывае вятрыска, вунь,
Завывае.
Вылягае калоссяў рунь,
Вылягае.*

*Застывае ад золі кроў,
Цела стыне —
Хмары,
хмары збіраюцца зноў
У небе сінім.
Навальніца восьвось ужо
Загрукоча.
Ну няўжо ж ты так хочаш,
няўжо
Ты так хочаш?..*

*…Запаволіцца сэрца стук,
Бег гадзінны…
Ты ж стаміўся ад вечных скрух,
Край радзінны!
Ты крывёю зямлю паліў
У ліхалецці!
Помніць раны лясы, палі!
Помніць вецер!*

*Помняць сэрцы грымотаў жах,
Плач ад болю!
Край радзінны, даволі так!
Ужо даволі?!*

*...Ты пяшчотаю свет карай
Штохвілінна,
Чысцінёй, мой радзінны край,
Мой адзіны.*



Фота Кастуся Дробава.

## Дэбют



**Віталіна БАНДАРОВІЧ**

Нарадзілася ў гарадскім пасёлку Юрацішкі Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Цяпер студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ.

***

*Марыць пра шчасце, пра танцы ля агню,
Пра непакорныя горы.
Радзіме крычаць: «Я цябе люблю!»
І бегчы па родных прасторах.
Глядзець на вокнаў шкло, на кроплі і на лес
І бачыць свайго сэрца адлюстровы.
І небасхіл, які ў душу залез,
Пакажа вечнасць і сівыя зоры.
Шукаць свой сэнс, знайсці яго ў любові
І чуць, як вецер стогне у лясах.
Ён прынясе з сабой пакой дубровы,
Які не сніўся ў самых лепшых снах.
Кранаць рукамі сонечныя промні,
Адчуць цяпло пяшчотных тых вачэй,
Якія немагчыма не запомніць.
У бездань ночы кінуцца лягчэй.
Імчацца і… спыніцца на хвіліну.
І азірнуцца ў пошуках сябе.
Знайсці сябе? Не, гэта немагчыма —
Знайсці кагосьці, хто шукаў цябе.*

***

*Мяккія ружы пакрыліся пылам,
Колер блакітны страціла неба.
Мілы цяпер не заўжды будзе мілым.
Кінута зерне ў кепскую глебу.*

*Цёмныя краскі з задавальненнем
Шыю скуюць у свае ланцугі.
Больш не прасі ў яго прабачэння.
Стынуць на возеры шэрым кругі.*

*Уюць васількі свае моцныя петлі,
Зласлівыя зоры змушаюць стагнаць.
І вецер насупраць не подыхам летнім,
А холадам вучыць: не трэба ілгаць.*

***

*Прыйдзі да мяне на каву,
Мы разам паслухаем вершы.
— Ты доўга мяне чакала?
— Магу і даўжэй, канечне.*

*Спяшацца з табою — не варта.
А снег чарадзейны. Ён першы.
— Напэўна, я вельмі ўпарты...
— Не згодна: ты самы мой лепшы.*

*Знойдзем з табою ўсе землі.
Жыццё мы сваё не зменяем.
— Ведаеш, я цябе вельмі...
— І я. Я таксама кахаю.*



**Аксана КАРПОВІЧ**

## Мой лёс

*Пакет трымаючы ў руках,
Ты справу чорную вяршыла:
Маленькі, кволы, быццам птах,
Мой лёс ты ўжо даўно рашыла.*

*Напэўна, помсціш за пакуты?
Твой пах салодкі і духмяны...
І я зусім не апрануты,
А ты мяне — на сметнік, «мама»...*

*Былі, напэўна, мары, планы,
А я, такі неспадзяваны,
Спяшаў к табе, імчаў, стараўся…
Няўжо зусім не спадабаўся?*

*Як толькі б трошкі акрыяла,
Прыйшоў бы ў сэрца тваё свет.
Навошта ты так паспяшала
І замест коўдры — у пакет?!*

*Цяпер цікую з вышыні,
Як пазбягаеш цішыні...
Я бачу, як жывеш, працуеш —
Сляды злачынства маскіруеш...*

*За пару крокаў ты ад крат —
Нядоўга вольнай існаваць....
А памяць — самы жорсткі кат,
Які пачаў цябе караць.*

## Старая хата

I

*Без кроплі трывогі,
Без крыўды, адчаю
Пустая хаціна стаіць.
З усмешкай парогі,
З усмешкаю комін,
З усмешкаю хата глядзіць!
Старая хаціна, нібы маладая,
У сэрца палёгку нясе.
Прыезджы ізноў запытае:
«Няўжо тут ніхто не жыве?»*

II

*Гаспадароў няма на свеце:
Памерла баба, потым — дзед.
Але і ўнукі іх, і дзеці
Шануюць продкаў запавет.
І святы ў хаце адзначаюць,
Гаспадароў стаіць партрэт.
Раз-пораз нехта ўсё ж заўважыць,
Як усміхнецца бабе дзед.*

## Дачушцы

*Твае вочкі — маё сонца,
Я гляджу у іх бясконца.
Носік, губкі, шэсць зубоў,
Многа гукаў, колькі слоў,
Ручкі, ножкі-тупатулі…
Ты дачка, а я матуля,
І бягом-бягом абедзве —
За табой паспею ледзьве...
Казычу табе жывоцік,
Наш няспынны самалёцік,
Рэвізор па шафам, скрыням —
Наша донечка Марыя!*

Марына ПРАКОП

# Галоўны інстынкт



**Чаго толькі не здараецца ў жыцці! Але гісторыя, якая адбылася з нашымі героямі, увогуле неверагодная.**

У канцы васьмідзясятых Аўдоцця з Тарасам ужо былі пенсіянерамі. Сын ажаніўся, дочкі таксама выйшлі замуж пасля таго, як скончылі ВНУ, і раз'ехаліся хто куды. Засталіся бацькі адны. Дакладней, са сваёй гаспадаркай. Звычайна пенсіянеры імкнуцца дапамагчы дзецям разжыцца, а таму многія яшчэ і працуюць. Выбіраць асабліва не даводзіцца: куды бяруць, туды і ідуць, капейчыну нейкую зарабіць.

Аўдоцця прывыкла працаваць з маленства, не сядзела рукі склаўшы: то ў саўгасе буракі з морквай палола, то кароў пасвіла на пару з Тарасам…

Аднойчы да Стрыкачоў са слязьмі завітала кума, Надзея Гаўрылаўна Сітнікава.

— Людзі добрыя, што нам рабіць… а-а-а! — галасіла яна на чым свет стаіць.

— У чым справа? Чаго выеш?

Жанчына выцерла і без таго чырвоны нос ды апухлыя вочы і пачала расповед.

Іван Сітнікаў, сын Надзеі, вучыўся ў педагагічным інстытуце, сёлета скончыў чацвёрты курс. Прыехаўшы на лета да бацькоў, захацеў крыху падпрацаваць і ўладкаваўся ў саўгас — вартаўніком у свінарнік. Месца, канечне, жудаснае: побач лес, вірлівая рака... Дзве ночы хлопец пільнаваў свіней, і ўсё было добра… Але наступнай раніцай недалічыліся траіх малочных парасят. Куды дзеліся? Хтосьці сцібрыў, але хто?! Усё загароджана калючым дротам, да Малых Лапухоў кіламетры тры, як не болей…

Аўдоцця, усміхаючыся, абарвала куму:

— Заснуў, мабыць, твой студэнт і не заўважыў госця начнога.

Надзея загаласіла яшчэ мацней:

— Ды што ты такое кажаш?! Не мог ён заснуць! Ён у мяне вельмі адказны і кемлівы!

— Ну-ну! А то не памятаеш сваё юнацтва! Успомні, як хацелася выспацца пасля гулянкі або працы. Не хачу цябе пакрыўдзіць, але чаго да мяне прыйшла, Гаўрылаўна? — запытала Аўдоцця, хаця адказ ведала загадзя.

Аўдоцця вельмі спрытна разгадвала розныя загадкі і шарады: не то добра развітая логіка, не то нейкі дар — людзі да яе звярталіся. Умела Стрыкачыха выводзіць на чыстую ваду хітруноў, злодзеяў ды іншых шкоднікаў.

— Таго і прыйшла, што дапамогі тваёй прашу. Дапамажы, родненькая, знайсці таго, хто рукі свае пагрэў. Трое парасят — такія грошы! Дзіця хацела сабе на джынсы зарабіць... Лепей бы сядзеў дома! А цяпер з саўгасам разлічвацца давядзецца!

Аўдоцця пільна паглядзела ў вочы сваячкі:

— Дзіця ведала, куды ідзе. Каб пільнаваць усю ноч, трэба звычку мець!

Але Гаўрылаўна яе нібы не чула і працягвала скардзіцца:

— Я ўжо абышла ўсіх мясцовых тунеядцаў, алкаголікаў… Усё глуха: усе маюць алібі.

Аўдоцця пачухала патыліцу.

— Штосьці тут не так… Лета ж на двары — можа, якія прыезджыя ёсць?

— Ну, ёсць… Да Юркі Карнейчука сваякі з цэнтра прыбылі: зяць яго, чыноўнік з вобласці, прыехаў на адпачынак у Малыя Лапухі. Ён яшчэ гадоў пяць таму нашай Кацярыне дапамагаў у прафілакторый уладкавацца. Ці не думаеш ты, што гэтая шышка будзе парасят красці?! — ужо ўсміхалася Гаўрылаўна.

— Не ведаю. Ты ідзі, а я падумаю.

Пад вечар Аўдоцця вырашыла ісці разам з Іванам: усё адно не спіцца, у старасці людзі мала спяць. Цікава, куды ж дзеліся парасяты?

Як і чакалася, а палове першай Ванька ўжо спаў як немаўлятка. Аўдоцця выйшла са старожкі і пачала абыходзіць свінарнік. Пахадзіла навокал з ліхтаром, палічыла жывёлу, потым села на лаўку каля бытоўкі і пачала любавацца зорным небам.

Раптам пачуліся крокі, дробныя, але ўпэўненыя. Аўдоцця паглядзела ўбок і застыла: перад ёю стаяў воўк, дакладней, ваўчыха: па ўсім было відаць — маці-карміцелька… Праз некалькі секунд драпежніца ўжо бегла ў бок лесу. Аўдоцця нават спалохацца не паспела.

Вартаўніца падышла да бокса, дзе спалі двое маленькіх парасятак. Невядома, што здарылася з маці, але немаўлятак яна збіралася з'есці. Такое здараецца. Пра гэта Аўдоцця чула ад сваяка, ветэрынара Івана Сівалапава. Пяцярых малых выратавалі і размясцілі ў асобным боксе. Значыць, траіх парсючкоў знесла ваўчыца. Аўдоцця бачыла тыя вочы. Гэта былі вочы не драпежніцы, а маці — позірк адчаю… Нешта здарылася ў яе. Жанчына ўспомніла худыя бакі і налітыя малаком грудзі.

Раніцай Аўдоцця здала вахту разам з Ванькам. Крыху пажартавала наконт яго начной працы і выправілася дадому.

Падчас снедання Аўдоцця запытала ў Тараса:

— Цікава, чым у нашай глушы зяць Карнейчука займаецца? Такія заўседы ў Крым ездзяць. Тут жа працаваць трэба, а не ў шэзлонгу валяцца.

— Цёмная ты, маці, зусім! — весела адказаў Тарас. — Цяпер модна на паляванне, на рыбалку ездзіць. Асабліва ў багатых такі адпачынак у фаворы. Дні тры па лесе паблукаюць, пастраляюць, гарэлкі пап'юць — і назад, у свае кабінеты. Ні ў якім Крыме такой раскошы не знойдзеш!

Аўдоцця пільна паглядзела на мужа і сур'ёзна запытала:

— А паляванне на каго? На зайцоў, на качак?

Тарас зацікаўлена глянуў на Аўдоццю.

— Ну, і не толькі на іх. На ваўка, рысь, глушца… А чаго ты так зацікавілася?

Але Стрыкачыха ўжо не слухала яго. Падбегла да тэлефона, набрала нумар Надзеі.

— Алё, Гаўрылаўна! Здаецца, я ведаю, чаму зніклі парасяты.

***

Аўдоцця не памылілася. Зяць Юркі Карнейчука з сябрамі паехаў на паляванне. Мужыкам не вельмі пашанцавала ў той дзень, нават ніводнай качкі не падбілі. І калі яны натыкнуліся на логава з малымі ваўчанятамі, то адразу забралі ўсіх, не падумаўшы, што няшчасная маці будзе паўсюль шукаць дзяцей. Проста захацелі пацешыцца. Добра, што ваўчанят хоць не забілі. Як вярнулі іх на месца — невядома. Але трое парасят былі знойдзены сытымі, здаровымі і накіраваны ў свінарнік.

…Адны нараджаюць дзяцей, а пасля без шкадавання кідаюць іх. Другія кормяць і саграваюць чужых немаўлят. Такі вось інстынкт. Мацярынскі. У адной ёсць. Другая нават не ўяўляе, што гэта такое.

# Гісторыя з тытунём

**Вось так заўсёды: калі нешта спатрэбіцца, дык ніколі не знойдзеш! А яно будзе ляжаць пад нагамі і смяяцца з цябе! Так і ў нашай гісторыі.**

Пасеяў неяк Тарас тытунь. У пачатку дзевяностых тытунёвыя вырабы раптоўна зніклі з прылаўкаў крам. І Раман, Тарасаў сябар, адразу прапанаваў яму пасадзіць у агародзе тытунь.

Дзень і ноч назіраў Тарас за пасевам. Ужо ў чэрвені тытунь вырас на зайдрасць многім вясковым курыльшчыкам. Аўдоцця, жонка Тараса, хадзіла паліваць агуркі з памідорамі, палоць бульбу, а Тарас вачэй не зводзіў з тытунёвых усходаў. Аўдоцця жукоў збірала ды зелле палола, а Тарас толькі тытунь паліваў. Уся мужыцкая палова вёскі зайздросціла Тарасу, а той толькі ўсміхаўся.

У жніўні Тарас пачаў сушыць тытунёвыя лісцікі і рабіць першыя самакруткі. Напачатку ён самазадаволена частаваў сваіх сябрукоў. Тытуню, здавалася, хопіць на цэлы год… Але потым нехта панадзіўся лазіць у агарод і красці багацце гаспадара. І як злавіць злодзея, калі на вёсцы курылі ўсе мужчыны?!

Аўдоцця як толькі не сварылася за курава, але зараз ёй было шкада Тараса, і яна прапанавала цікаваць злодзея разам, па чарзе. Ноччу муж і жонка павінны былі сядзець у засадзе і наглядаць за тытунём. І дзеці наглядалі за сямейным скарбам, калі мелі час.

Так прайшло тры тыдні. Тытунь як знікаў, так і працягваў знікаць: нехта ўвесь час абдзіраў тытунёвае лісце. У плоце — ніводнай дзіркі, ніводнай шчыліны. Ну як магчыма сцібрыць хоць лісточак?!

Вырашылі плюнуць на сваю задумку. Няхай будзе як ёсць! І ўвогуле, можа, усё гэта ім здалося і ніхто нічога не крадзе?!

…Аўдоцця прыйшла дадому з ранішняй дойкі (яна працавала на ферме, даіла кароў). Патап, старэйшы сын, ужо каторы дзень ляжаў у ложку з тэмпературай.

— Як справы? — запыталася маці. — Табе ўжо лепей?

— Як тут будзе лепей, калі старая Мікалаіха ўвесь час у наш агарод бегае — курэй сваіх выганяць?! Толькі і чуваць пад акном: «Патапка, унучок, зноў мае хахлатыя да вас неяк заляцелі, пайду павыганяю. А ты ляжы, не ўставай, здаравей будзеш!» Ды і Галя колькі разоў дазваляла выгнаць кур.

Маці здзіўлена паглядзела на Патапа:

— І што ж, кожны дзень прыбягае?

— Амаль што кожны божы дзень! Скажы бацьку, каб дзіркі залатаў.

Аўдоцця ўсміхнулася пра сябе: наш штыкетнік вышынёю з яблыню ніводная курыца не адолее! Нешта тут не так… Хуценька апранула чыстую хусціну і пайшла да суседкі.

Мікалаіху звалі Настассяй Рыдлёўкінай. Жыла яна ўвесь час адна, без дзяцей і мужа, працавала ў пасялковай бібліятэцы. І вось ужо гадоў дзесяць была на пенсіі.

Аўдоцця, не пастукаўшыся, зайшла ў сенцы. Як зайшла — так і села: на газетнай паперы раўнюткімі лісцікамі сушыўся тытунь!

Адразу скрыпнуў ложак: відаць, гаспадыня прачнулася і накіравалася да дзвярэй.

— Ты? — спалохана і няўпэўнена запыталася Мікалаіха.

— Я, Насця, я! — адказала Аўдоцця, а пра сябе пасміхнулася: «Здаецца, злодзей знойдзены! І чаго не папрасіла? Хіба б я пашкадавала той атруты?!» Уголас жа здзіўлена запыталася:

— І даўно ты, так сказаць, маеш дурную звычку?

Мікалаіха, апусціўшы вочы, расказала сваю сумную гісторыю.

У пачатку саракавых Насця Рыдлёўкіна паступіла ў Ленінградскі бібліятэчны тэхнікум. У Ленінградзе і заставалася да канца блакады. Што толькі не давялося рабіць, каб пазбавіцца голаду, які звёў у магілу стольких людзей! Вось тады Насці і параілі курыць папяросы. Яна выжыла, але звычка засталася назаўсёды. Пасля вайны праблемы не было: папярос хапала ва ўсіх крамах. Але ў мясцовым сельмагу іх купляць саромелася: мужыка ж у хаце не было. Ездзіла раз на месяц у райцэнтр. Але ў дзевяностых тытунь амаль што знік з продажу. Вось і прыдумала Настасся, зазірнуўшы ў суседні агарод, як прыдбаць курава…

Аўдоцця ніколі не курыла, але ёй стала шкада старую. Яна паабяцала нікому не расказваць пра пачутае і, збегаўшы дадому, не шкадуючы насыпала той тытунёвага насення. Хто ведае, што б рабіла яна сама, апынуўшыся ў блакадным Ленінградзе?..

— Толькі Тарасу не кажы, бо мне дужа сорамна будзе. Мужык, які курыць, чамусьці не здольны зразумець жанчыну, калі яна робіць тое ж самае, — папрасіла Настасся суседку.

Пакінуўшы Настассін двор, Аўдоцця пайшла дадому. Сын ляжаў у ложку і глядзеў тэлевізар.

— Ведаеш, Патап, дзірка ў плоце была велізарная. І як толькі мы яе не заўважылі! Я сама загарадзіла шчыліны, так што бацьку нічога не скажам. А калі і ўляціць якое-небудзь куранё, то нічога страшнага — нашы таксама недзе грабуцца. Мікалаіха, ты ж ведаеш, чалавек адзінокі, вось і шукае, з кім пагутарыць. Абедаць будзеш?

Вечарам, калі ўся сям'я вячэрала, Аўдоцця прапанавала болей не пільнаваць тытунь.

— Ведаеш, Тарасік, не хацела табе скардзіцца, але мае астры таксама нехта цягае, асабліва перад першым верасня. Можа, і іх будзем пільнаваць?! — нібы пажартавала Аўдоцця.

— Ой, я і сам хацеў тое ж прапанаваць. Надакучыла сядзець ноччу на саломе. Ды не ведаў, як табе сказаць. Калі ў нас крадуць, значыць, мы не бедныя. А гэта ўжо нядрэнна.

— Згодна, — радасна дадала жонка. — І ўвогуле, меней ведаеш — лепей спіш.

# Чарадзей з душой юнака

**«Усё пачынаецца з дзяцінства» — фраза хрэстаматыйная. Сапраўды, гэта найважнейшы перыяд у жыцці чалавека, у тым ліку ў фарміраванні светапогляду. Добра, калі б аднымі з першых дзеці пачулі казкі і вершы Уладзіміра Дубоўкі.**

Памятаю ўласнае ўражанне ад казкі «Мілавіца», якую прачытала ў малодшых класах. Апісанне беларускай прыгажуні ў ёй не саступае «Царэўнелебедзі» Аляксандра Пушкіна.

*Адбылося неяк дзіва:*
*Сонца ход свой прыпыніла.*
*Прастаяла тры гадзіны*
*З невядомае прычыны...*

А прычына простая: сонца ўбачыла прыгожую дзяўчыну і залюбавалася. Калі герой казкі, «хлапчына з васількповымі вачыма», выправіўся разгадваць такое дзіва, ён зразумеў: «вельмі мала сонца ў небе прастаяла».

*…Мілавіца,*
*А на выгляд як зарніца!*
*Як блакіт на небе вочы,*
*Зіхаціць убор дзявочы,*
*Аж да пят тугія косы*
*У дзяўчыны той дзівоснай.*
*Вышывана ўся сарочка*
*У мядункі, васілёчкі.*
*Толькі кіне сінім зрокам —*
*Закрасуе ўсё навокал,*
*А калі ніяк не гляне —*
*Засумуе кветка, звяне…*

Далей сюжэт судакранаецца з «Вечарамі на хутары блізу Дзіканькі» Мікалая Гогаля: Мілавіца, каб выйсці на бераг, папрасіла хлопца зрабіць ёй чаравічкі з пяску. Закаханы спытаў парады ў сонца і паднёс любай крыштальныя чаравічкі.

Нязмушана і лёгка раскрывае паэт прыгажосць мовы. Можна нават сцвярджаць, што, калі пачаць знаёмства з беларускай мовай з твораў Уладзіміра Дубоўкі, праблем не будзе. Казкі, а напісаў ён іх не менш як 50, маюць вялікае выхаваўчае значэнне. Самога У. Дубоўку, па яго прызнанні, вучылі: «Як толькі сябе помню, бацькі мае і старэйшыя людзі прывучалі нас, малых, шанаваць усё жывое, што было вакол нас: не тапчы травіцу, хадзі сцежачкай. Травіца вырасце, яе скосяць — будзе сена карове, каню… Асцярожна рві яблык — не паламай, не адвіхні галінку. Дрэва будзе хварэць, на паламаным суку не будзе яблыкаў… З таго часу расло ў мяне вялікае замілаванне да прыроды». Яго аповесць «Жоўтая акацыя» — гімн прыродзе: парады, як ашчадна ставіцца да яе, пададзеныя па-мастацку.

У вершы «Маім юным чытачам» Уладзімір Дубоўка распавядае пра тое, як доўга збіраў залатыя зярняты народнай мудрасці, і жадае чытачам:

*Хай у кожным вашым сэрцы*
*Па адным хоць застанецца.*
*З аднаго таго зярняці*
*Будзе плён багаты ў хаце…*

Сам паэт пражыў вельмі трагічнае жыццё, правёўшы 27 гадоў у сталінскіх лагерах. Але, па словах яго сябра Васіля Віткі, застаўся «чарадзеем з душой юнака, закаханага ў жыццё і ва ўсё прыгожае на свеце».

**Валянціна СОПІКАВА**

# Сумна не будзе,

## або 22 спосабы пазбавіцца нудоты

**Інтарэсы дзяцей змяняюцца не тое што кожны год — кожны месяц. Тым больш — у дзяцей творчых, таленавітых. 13-гадовая мінчанка Лада Ксенафонтава выдала другую кнігу. Каб убачыць змену прыхільнасцей дзяўчынкі, нагадаю, пра што была першая кніга, якая выйшла каля двух гадоў таму.**

### КНІГА МАГІІ

Аповесць «Чараўніцтва наяве. Даніэла ў Хогвартсе» стваралася Ладай пад уплывам цыкла пра Гары Потэра — хлопчык-маг зацікавіў дзяцей ледзь не ўсяго свету. Многія дзякуючы кнігам англійскай настаўніцы Д. Роўлінг прывучыліся да сістэматычнага чытання. А вось самім напісаць нешта падобнае — на гэта, безумоўна, здатныя адзінкі. Тут справа нават не ў сіле фантазіі, уменні прыдумляць. Можна не сумнявацца, што ўсе дзеці — прыдумшчыкі, летуценнікі, усе ўмеюць марыць. Але далёка не ўсім хапае цярпення, працалюбства, элементарных навыкаў занатаваць мары, аформіць іх у арганізаванае па пэўных законах літаратуры мастацкае цэлае.

Гераіня аповесці-фэнтэзі Даніэла трапляе ў школу чарадзейства. З першых старонак маленькая гераіня паўстае актыўна-творчай, дапытлівай, няўрымслівай, па-свойму сапраўды чараўніцай, здольнай ствараць уласныя незвычайныя сусветы. І далёка не ўсё ў кнізе Лады пазычана з твораў Роўлінг. Апушчаныя многія сюжэтныя лініі, сістэмныя сувязі і дэталі. Дзяўчынка-празаік свабодна абыходзіцца з тым, што дарослая аўтарка вымушаная была падрабязна і не так ужо па-мастацку дасканала апісваць.

Д. Роўлінг дала штуршок фантазіі мільёнаў чытачоў, стварыла абаяльнага і, відаць, вельмі запатрабаванага сучаснымі дзецьмі героя. Лада смела адступіла ад канона, зрабіўшы яго ўсяго толькі структурным элементам мастацкага свету сваёй аповесці.

> *Далёка не ўсё ў «Чараўніцтве наяве» пазычана з твораў Роўлінг. Аўтарка смела адступіла ад канона, зрабіўшы яго ўсяго толькі структурным элементам свайго мастацкага свету.*

У свой час, аналізуючы першую кнігу Лады, я звяртала ўвагу на характэрныя выхады аўтаркі ў рэальнасць. Так, па ходзе развіцця сюжэта кнігі аказваецца, што Даніэла спадзявалася на навучанне, якое стане «прыгодай, а не надакучлівым абавязкам», але вучоба ў школе чарадзейства не так ужо яе і цікавіць. Унікальная вучэбная ўстанова мала чым адрозніваецца ад звычайнай школы. Па вялікім рахунку, гэта тое, што ў кнізе пра цуды вылезае сапраўдным рэалізмам: дванаццацігадовая аўтарка яшчэ не можа ўявіць сабе іншыя метадыкі і формы навучання, акрамя тых, да якіх прывучалася ў сваёй, зусім нядрэннай, мінскай гімназіі. Таму міжволі ў творы прабіваецца расчараванне юнай гераіні, якая прагне цудаў заўсёды і ва ўсім. Яе дасціпнасць, гнуткі розум, жывы характар скіроўваюцца на іншае — на адносіны паміж ёю і Гары Потэрам. Яны сябруюць. І разам змагаюцца са злом, як і павінна быць у любой казцы.

Я пішу пра першую кнігу Лады, каб нагадаць, што ўжо ў ёй маленькая пісьменніца дэманструе бліскучую эрудыцыю. Алюзіі на Біблію — кобра абвіваецца вакол дрэва, пад якім размаўляюць закаханыя. Акрамя дынамічнага разгортвання сюжэта, у кнізе Лады ёсць і клопат пра дакладнасць апісанняў, маляўнічасць дэталяў.




Падрастаючы, Лада ўсвядоміла, што эрудыцыя — яе велізарны плюс і каласальнае асабістае дасягненне ў грамадстве, дзе маладыя людзі ўпэўненыя ў магчымасці здабыць звесткі з інтэрнэту. Лада мяркуе, што залежаць ад гаджэтаў — сумна і банальна. Намнога цікавей самому нешта вынаходзіць, знаходзіцца ў стане творчасці. Так з'явілася другая яе кніга — «Як пазбавіцца нудоты» (па-руску «Как достать скуку», Кіеў, 2015).

### КНІГА РАДАСЦІ

Кніга мяне як рэцэнзента парадавала ад усёй душы. Калі да першага твора можна было прад'яўляць прэтэнзіі ў эстэтычным плане, то арганізаваная па зусім іншым прынцыпе другая кніга, лічы, не мае хібаў — як з пункту гледжання малых чытачоў, так і дарослых.

Арыгінальная сама задума твора, што ўжо палова справы. Гэтым разам кніга не ўсплёск магутнай дзіцячай фантазіі, а надзвычай прадуманы, крэатыўны навукова-папулярны праект, напісаны, тым не менш, смела, раскавана, бойка, так што карысныя парады для аднагодкаў чытаюцца на адным дыханні. Гэта маленькая энцыклапедыя звестак пра тое, чым можа заняць сябе сучасны падлетак, каб адагнаць сум і адчуць радасць жыцця.

Адпаведна магчымым захапленням кніга пабудаваная з асобных раздзелаў: «Жывапісны спосаб», «Літаратурны спосаб», «Фатаграфічны спосаб», «Псіхалагічны спосаб» і іншыя — усяго 22. Фактычна ўсе іх Лада выпрабавала сама. Напрыклад, наведвала спецыяльныя майстар-класы па правапаўшарным маляванні. На гурток, праўда, ішла з асцярогай, што Малевіча з яе не атрымаецца. Казімір Малевіч, дарэчы, якраз вельмі дрэнна, па ўспамінах яго сучаснікаў, маляваў у акадэмічным сэнсе слова, але, аказваецца, Лада мела рацыю, згадваючы менавіта Малевіча з яго своеасаблівым вобразным мысленнем. Спосаб малявання, якому яе вучылі, асноўваецца на поўным адключэнні левага паўшар'я кары галаўнога мозгу, якое аналізуе рэальнасць, крытычна ставіцца да ўласных здольнасцей і адсылае да канонаў, а таму не дае свабоды ў праяўленні фантазіі.

Лада піша: «...Неабходна было выявіць якую-небудзь эмоцыю, а потым проста намаляваць якую-небудзь каляровую пляму. Дзіўна, але ў гэтых крамзолях разгледзела птушку ці вулкан не толькі выкладчыца, але і ўсе ўдзельнікі». Яшчэ Леанарда да Вінчы такім чынам набіраў сабе вучняў: маляваў пляму, і хто ўмеў у ёй нешта ўбачыць, той аказваўся ў майстэрні генія.

Ад чытання, а тым больш ад сачынення ўласных літаратурных твораў, любая нудота, на думку Лады, «траціць прытомнасць». Яна прапаноўвае на першы раз прыдумаць хоку, даючы прыклад з класічнага аўтара Басё, і прыводзіць уласны досвед у гэтым надзвычай цяжкім жанры. Аўтарка прапаноўвае сваім чытачам прыдумаць «Школьнае хоку», «Смешнае хоку», «Лірычнае хоку». Безумоўна, гэта прафанацыя класічнай формы, але нічога не зробіш — век такі: маладыя пасвойму інтэрпрэтуюць традыцыйныя жанры. Нельга патрабаваць, каб юныя творцы на ўсё глядзелі дарослымі вачыма.

У прыдумванні казак Лада прапануе асноўвацца на метадзе Джані Радары — сусветна вядомага італьянскага дзіцячага пісьменніка і настаўніка. Я сама выкарыстоўвала яго спосаб яшчэ трыццаць гадоў таму і цешуся, што маладая літаратарка да яго звярнулася. Гэта «казкі навыварат»: розныя фантазійныя маніпуляцыі з казачнымі сюжэтамі і героямі. Так, Лада прыводзіць уласную версію казкі пра Калабка з выкарыстаннем сучасных рэалій. А потым у кароткіх дэфініцыях паказвае, якімі асаблівасцямі характарызуецца любая казка — і чарадзейная ў прыватнасці. Згаданыя прыёмы — шлях да ўласнай творчасці.

У своеасаблівай энцыклапедыі Лады прыводзіцца вялікая колькасць звестак са шматлікіх галін ведаў, а каб чытачы не стамляліся ад суцэльнай плыні пісьмовага тэксту, графічна арыгінальна будуе свой твор. Многія абзацы тут набраныя рознымі шрыфтамі, асабліва важныя фактычныя звесткі заключаныя ў рамкі, дадатковыя — у свайго роду картушы. Заданні для чытачоў — у выглядзе паласак школьных сшыткаў у лінейку. Ёсць і табліцы, прыклады шыфраваных тэкстаў (у раздзеле «Дэдуктыўны спосаб»). Карацей, усё, чаму вучаць сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі, выкарыстоўваецца ў кнізе, але абсалютна арганічна, ненавязліва, хутка змяняючыся, у кароткіх фразах. Гэта, безумоўна, зацікавіць юнага чытача, але сяму-таму навучыць і дарослых аўтараў.

> *Пісьменніца мяркуе, што залежаць ад гаджэтаў — сумна і банальна. Намнога цікавей самому нешта ствараць і здабываць. Так з'явілася другая яе кніга — «Як пазбавіцца нудоты». Гэта надзвычай прадуманы, крэатыўны навукова-папулярны праект, напісаны смела, раскавана, бойка. Карысныя парады для падлеткаў чытаюцца на адным дыханні.*

Лада пісала для сваіх аднагодкаў. І ўсё ж аўтар — дзяўчынка, таму і кола інтарэсаў адпаведнае. Адсюль такія раздзелы, як «Джынсавы спосаб», «Модны спосаб», «Гламурны спосаб» і падобнае. І ўсё ж у большасці спосабаў пазбавіцца ад суму — універсальны характар.

Кніга выдадзеная ў Кіеве, але, безумоўна, яна заслугоўвае таго, каб быць перавыдадзенай у Беларусі. Гэта якраз тая вучэбная і адначасова забаўляльная літаратура, якой так не хапае сучасным дзецям.

**Таццяна ШАМЯКІНА**

# Зразумець незразумелае

**Каб стаць дзіцячым пісьменнікам, трэба не толькі мець талент, але і заставацца ў душы маленькім дзіцем. Яркія кнігі з серыі «Вясёлы калейдаскоп» Выдавецкага дома «Звязда» — якасны прадукт, створаны камандай прафесіяналаў, якія захавалі дзіцячы погляд на жыццё і свет.**




Пісьменнік Анатоль Бутэвіч піша казкі не толькі для дзяцей, але і для дарослых, а таксама творы гістарычнай тэматыкі. Яго тэксты поўняцца гукамі прыроды — шчабятаннем птушак, размовамі кветак, дрэў і лясных жыхароў, таму зачароўваюць напеўнасцю, харастовам мовы. Героі Анатоля Бутэвіча заўсёды трапляюць у фантастычны свет, дзе з імі адбываюцца незвычайныя здарэнні і дзівосы. Аўтар разам са сваімі героямі імкнецца разгадаць таямніцы прыроды і гісторыі, убачыць нябачнае, зразумець незразумелае. Нездарма назвы многіх ягоных дзіцячых кніг пачынаюцца са слова «Прыгоды…», але новая кніга *«Чараўніца Восень і Сняжынка падарожніца»*, хоць і не вылучаецца «прыгодніцкай» назвай, не менш цікавая і захапляльная.

З яе старонак маленькія чытачы даведаюцца, чаму чараўніца Восень не паддаецца Зіме, хто такія Зюзевы служкі, як Туман з лесу ўцякаў, пра першы палёт верабейкі і многае іншае. Але самае галоўнае, чаму вучыць сваіх чытачоў Анатоль Бутэвіч, — слухаць і назіраць за прыродай, каб спазнаць таямніцы і зразумець, што мы ўсе жывём у казцы — казцы жыцця. Асобна хацелася б адзначыць сапраўды казачаныя ілюстрацыі мастака Марыі Каратаевай, якія вельмі гармнічна дапаўняюць тэкст і ўпрыгожваюць выданне.

Першыя чароўныя гісторыі для дзяцей Алесь Бадак напісаў яшчэ школьнікам. І хоць сам пісьменнік даўно ўжо ў казкі не верыць, заўсёды паўтарае, што сюжэты твораў бярэ з жыцця. Праўда, героі незвычайных прыгод часцей за ўсё не людзі, а жывёлы і птушкі. У яго новай кнізе *«Зорка для вавёркі»* сабраныя невялічкія аповеды пра тое, ці можа пеўнік навучыцца чытаць, а жабка — скончыць кансерваторыю, ды іншыя гісторыі — вясёлыя, цікавыя і павучальныя, — аздобленыя яркімі малюнкамі Кацярыны Першынай.

Не заўсёды журналіст можа стаць добрым пісьменнікам, тым больш дзіцячым, але Вольга Савасцюк паспрабавала. Так з'явілася кніга *«Юлін рэстаран»*. У выданне ўвайшлі: вершаваная казка, якая дала назву кнізе, загадкі, казкі, вершы. Тонкі гумар Вольгі Савасцюк спрыяе дыялогу з маленькімі чытачамі. Твор набыў павучальны і выхаваўчы характар. Тэксты яркія і дынамічныя, лёгка запамінаюцца. А прыгожае мастацкае афармленне Ангеліны Вашчанка не дазволіць кнізе надоўга затрымацца ў кнігарні.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Цяжкі ўзрост?

**Пра гэта разважае Уладзімір Ліпскі, аўтар кнігі «Мілаградскі конік» (Бібліятэка СПБ, 2015). Першая аповесць, што і дала назву выданню, распавядае гісторыю Барыса, адпраўленага ў вёску да дзядулі з бабуляй.**




Як і належыць гараджаніну, Барыс не чакае нічога добрага ад паездкі, вясковае жыццё здаецца яму невыносна сумным. Аднак неўзабаве ён разумее, што пасёлак Мілаград, размешчаны на беразе Дняпра, зусім не такі просты, якім здаецца. У лясах — векавыя дубы, на зямлі — аскепкі тысячагадовай даўніны, і ўсё вакол дыхае гісторыяй. Тут Барыс сустракае Дашу, разам з якой вывучае поўнае таямніц і нечаканых адкрыццяў пахаджанне Мілаграда...

Твор дапамажа падлеткам усвядоміць сябе часткай гісторыі роднага краю, навучыць іх паважаць продкаў, ганарыцца сваім паходжаннем і да ўсяго пазнаёміць з радасцямі сяброўства і першага кахання.

Другая частка кнігі — новая гісторыя. «Даверлівая душа, або Споведзь Шпундзіка» — апавяданне ад імя пятнаццацігадовага Сяргея Марозава. Ён жыве з мамай і татам, вучыцца ў школе і закаханы ў аднакласніцу Марыну. Аднагодкі ахрысцілі яго Шпундзікам за тое, што той цікавіцца літаральна ўсім: ад медыцыны да фізікі.

Але галоўная рыса Шпундзіка — самастойнасць. Ён хоча ўмець рабіць усё сам, без чыёйсьці дапамогі. Бацькі з цяжкасцю разумеюць яго імкненне да незалежнасці.

Дарослым гэтую аповесць варта прачытаць ані менш, чым мэтавай аўдыторыі. Убачыць свет вачыма падлетка, зразумець, што ён ужо не дзіця і можа — дый хоча — быць самастойным. Аповесць падводзіць да высновы, што няма ніякага «цяжкога ўзросту». Ёсць толькі імкненне падлетка быць самастойным і неразуменне, непавага яго жаданняў з боку дарослых. Кніга будзе карысная ў тым ліку і для пазакласнага чытання.

**Ілья ІВАНОЎ**

# Гульня ў рыфмы

**Выдавецкі дом «Звязда» вялікую ўвагу надае дзіцячым кнігам. Прынамсі, колькасць такіх выданняў не змяншаецца. Серыя «Вясёлы калейдаскоп» з'явілася колькі гадоў таму і ўжо мае свой твар ды, пэўна, сталага чытача. У гэтай серыі друкаваліся творы Алены Мальчэўскай, Анатоля Бутэвіча, цудоўнага дзіцячага паэта Віктара Ляскоўскага.**




Але ёсць яшчэ адна «серыя». У двукоссі — бо афіцыйнага наймення яна не мае. Аднак па змесце і мастацкім афармленні гэтыя кнігі адвочна могуць скласці мінібібліятэку. Размова — пра зборнікі дзіцячых вершаў, і сёння мы распавядзём пра кнігі «Хто ў лесе самы смелы?» Тацціяны Мушынскай і «Венерын чаравічак» Надзеі Парчук.

Спадарыня Надзея вядомая вам перадусім дзякуючы нататкам чытачоў, што друкаваліся ў адпаведнай рубрыцы «ЛіМа». Яе вершы аб'ядноўвае моцная прага жыцця, пазітыўны настрой, імкненне да боскага — і ў рэлігійным сэнсе, і ў сэнсе стваральнасці, сімвалічнага свята. Такія ж і яе дзіцячыя вершы. Сама назва зборніка — «Венерын чаравічак» — указвае на змест кнігі: гэта пейзажы, замалёўкі з натуры, хваласпеў прыродзе — як найменшым яе складнікам, так і вялікім законам (змены паравін года, дня і ночы), самому жыццю. Часта Надзея Парчук перастварае прыродныя сімвалы ў сімвалы Радзімы, Беларусі: вядома ж, галоўны тут — несмяротны бусел. Збольшага яе вершы падобныя адно да аднаго, таму кепска запамінаюцца асобныя радкі — толькі настрой. Аднак ёсць і такія яркія штрыхі, дакладныя, яскравыя заўвагі:

*Пад вясёлы свіст шпака*
*Зацвітае лотаць.*

*Дорачы вясну́шкі,*
*Вясна ідзе з вярбой.*

Уменне прыкмеціць дэталь і перадаць яе дакладным словам варта было б развіваць, тым больш што на свет аўтарка глядзіць з пачуццём светлым, а не з'едліва-крытычным, хоць часам і гэтага нестае.

Сярод найбольш удалых твораў Надзеі Парчук — вершык-гульня «Камерунг», які лёгка ўвасабляецца ў жыццё (праўда, сустракаюцца лексічныя недакладнасці), «У завіруху» (у творы ўдалая алітэрацыя), «Калыханка для зайчыка» і «Сон».

Тацціяна Мушынская — аўтар прыкметна адрозны. Папершае, прырода ў яе вершах іншая: аб'ект назірання ці ўвогуле фон. Дзеці ў яе могуць паводзіць сябе не ўзорна ў адрозненне ад пастаральна-мілых герояў Надзеі Парчук.

Часта бойкія, рытмічныя строфы распавядаюць пра сумныя бакі жыцця, як, напрыклад, матэрыяльная нястача, адзінота, сум ды інш. Часам такія радкі нават бянтэжаць…

Гэтаксама Тацціяну Мушынскую адрознівае тое, што яна не ўпісвае чалавека ў свет прыроды, але, наадварот, антрапамарфізуе жывёльны свет. Так, мядзведзь у яе глядзіць перадачы пра людзей, а ўпартыя бараны і фанабэрысты індык адвочна запазычаныя з баечнай традыцыі. Словам, у вершыках гэтых адкрываецца другое дно, што робіць іх яшчэ цікавейшымі для маленькага чытача. Як і творы, пабудаваныя на асацыятыўным мысленні: «Гульня ў рыфмы», «Якія бываюць словы». Завершаныя, яны ўсё адно пакідаюць, як кажуць, «прастору для творчасці» — вы лёгка зможаце прапанаваць свае варыянты асобных радкоў.

Аўтарка ўдала будуе сюжэтныя вершы («Хто галоўны ў сям'і?», «Том, дом і гном»). Калі з першага разу не запомніцца сам радок — вобраз, прынамсі, у памяці застанецца. А гэта — адпраўны пункт для фантазіі, шматлікіх інтэрпрэтацый, пра карысць якіх не трэба і казаць. Тое ж — з гульнёй слоў («лістапад», «лістабой», «лістаплач» і г. д.). Так дзіця не толькі паглядзіць на свет вачыма аўтара, але і само стане стваральнікам.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Кот без ботаў

Жыў на свеце хлопчык Вася Лайдачкін. І любіў ён ленавацца. А выконваць хатнія заданні, чысціць зубы і займацца спортам — не. І здарылася з ім страшнае: настаўніца беларускай мовы паставіла двойку... Так пачынаецца кніга Генадзя Аўласенкі «Прыгоды Васі Лайдачкіна» (выдавецтва «Беларусь», 2015).

…Каб не атрымаць наганяй ад бацькоў, хлопчык вырваў з дзённіка ліст і схаваў яго ў кніжцы з казкамі. І толькі прылёг адпачыць, як будзіць яго кот у ботах. Аказваецца, Двойка збегла са старонкі і ўчыніла разгром у чароўнай краіне казак. Рабіць няма чаго — трэба выпраўляцца ў падарожжа і прыструніць бунтарскую Двойку.

У краіне казак тым часам дзеецца хаос. Тры парасяці ганяюць па лесе ваўка, Карлсан ператварыўся ў графа Дракулу, а славуты кот застаўся без ботаў.

На шчасце, на выдранай старонцы знайшлася яшчэ Васьмёрка па фізкультуры і Сямёрка па музыцы. Яны становяцца вернымі памочнікамі Васі і дапамагаюць адужаць усе нягоды. Аднак з Двойкай па беларускай мове не ў стане зладзіць нават яны. З Двойкай Вася мусіць управіцца сам...

У краіне шкодных звычак з дапамогай Здаровага Ладу Жыцця Вася пераможа ляноту да водных працэдур і чысткі зубоў, цягу да салодкага, гульні ў камп'ютар да позняй ночы і зарачэцца дакранацца да цыгарэт.

Кніга падыдзе дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту для самастойнага чытання.

**Ілья ІВАНОЎ**

*Кнігі прадастаўленыя «Кнігарняй пісьменніка» (вул. Казлова, 2) і Выдавецкім домам «Звязда».*

# Молада — не зелена?

**Ёсць у народзе выраз: «Молада — зелена». Ды, як вядома, амаль кожнае правіла не абыходзіцца без выключэння. Гэта датычыць і згаданага выслоўя. Шмат у якіх выпадках яго можна ўжываць у процілеглым значэнні: «Молада — не зелена». Такое сцверджанне прыдатнае і да жыцця творчага, літаратурнага, мастакоўскага. Гэта відаць і па набытках беларускай літаратуры: маладыя аўтары плённа працуюць поруч са старэйшымі калегамі па пяры. Але ці заўсёды так адбываецца? Я невыпадкова паставіў пытальнік у канцы гэтых сваіх развагаў. Дарэчы, пра само паняцце «маладая літаратура»…**



## ДЗЕНЬ, ЯКІ ПАЧЫНАЕЦЦА

Апошнім часам вядуцца спрэчкі: каго ж лічыць маладым пісьменнікам? Дзе тая ўмоўная мяжа, што падзяляе маладога творцу і ўжо немаладога? Адны схільны меркаваць, што маладыя пісьменнікі — гэта тыя, хто яшчэ не дасягнуў 25 гадоў. Другія кажуць пра 27-гадовы ўзрост, да якога за савецкім часам можна было знаходзіцца ў камсамоле. Трэція сцвярджаюць, што да маладых літаратараў трэба адносіць усіх, каму не споўнілася 33 гадоў — няйначай маюць на ўвазе Хрыстовы ўзрост.

Апошняе вызначэнне, бадай, найлепш стасуецца з паняццем «малады аўтар». Усё ж у 25 гадоў далёка не кожны з тых, хто заяўляе пра сябе як творца, здольны стварыць сваю першую кнігу. Праўда, паэтам прасцей: іх дэбютныя кніжкі звычайна невялікія аб'ёмам. А як быць празаікам, асабліва калі ўжо напісана аповесць, а часам і раман? Наўрад ці знойдзецца выдавецтва, гатовае выпусціць іх за свой кошт. За аўтарскі — калі ласка, але дзе пачынаючаму празаіку такія грошы ўзяць? Да 33 ж год можна больш-менш стаць на ногі дый сфарміравацца як пісьменнік.

Але тым, хто ўжо зарэкамендаваў сябе, да гэтага ўзросту яшчэ некалькі гадоў. Значыць, можна не сумнявацца, што ў іх з таго часу з'явяцца і новыя цікавыя кнігі. Маю найперш на ўвазе дзіцячых пісьменніц Алену Мальчэўскую і Вольгу Нікольскую. Іх кнігі казак мелі шырокі розгалас. Не ў апошнюю чаргу таму, што аўтаркам удалося знайсці менавіта сваіх герояў, такіх, якіх у творах іншых аўтараў не напаткаеш. Высокую ацэнку атрымала творчасць і маладога крытыка Дзяніса Марціновіча, кніга якога «Жанчыны ў жыцці Уладзіміра Караткевіча» сёлета адзначана Нацыянальнай прэміяй у галіне крытыкі і літаратуразнаўства.

З тых жа, хто пакуль не мае кніг, хацеў бы назваць Марыну Весялуху і Юлію Алейчанка. Марына зарэкамендавала сябе ўдумлівым, аб'ектыўным крытыкам, да ўсяго паспяхова перакладае з англійскай мовы. Юлія — таксама і крытык, і перакладчык, а яшчэ піша вершы, што засведчыла яе нядаўняя цікавая падборка ў «ЛіМе».

Увогуле, вельмі добра, што маладым аўтарам ёсць дзе друкавацца. Для іх адкрыты не толькі старонкі літаратурна-мастацкіх выданняў. Некалькі гадоў таму ў тагачаснай рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва» выйшла калектыўная кніга «Мы — маладыя», у выдавецтве «Мастацкая літаратура» нядаўна пабачыў свет зборнік маладых празаікаў і паэтаў з сімвалічнай назвай «Мой дзень пачынаецца».

## ПАГЕР… І ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ

Канечне, паэзія сёння запатрабавана не так, як, прыкладам, гадоў дзесяць назад. А што ж казаць пра 50-я гады мінулага стагоддзя? Таму выдавецтвы неахвотна выпускаюць кнігі паэтаў. Аднак тым аўтарам, якія толькі ўваходзяць у літаратуру, усё ж грэх скардзіцца. Праўда, серыі «Першая кніга паэта», якую спачатку выпускала выдавецтва «Беларусь», а пасля — «Мастацкая літаратура», цяпер няма. Затое ёсць серыя «Мінскія маладыя галасы», заснаваная Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. А нядаўна з'явілася яшчэ адна — «Маладыя галасы Беларусі», якой апякуецца сам СПБ. У гэтай ужо выйшла 16 кніг.

Аднак… Хто быў дэбютантам «Першай кнігі паэта»? Яўгенія Янішчыц, Алесь Разанаў, Сымон Блатун, Яўген Крупенька, Яўген Міклашэўскі (тады Яўген Верабей)… Дый іншыя, не менш вартыя аўтары, чыя творчасць сёння — гонар нашай літаратуры. А цяпер? Абыдуся без прозвішчаў. Не таму, што вартых увагі шмат. Наадварот, мала. У асноўным…

Як бы мякчэй сказаць? Ды ніякая не паэзія. Проста больш-менш рыфмаваныя вершаваныя радкі. З той толькі розніцай, што адны аўтары пішуць у традыцыйнай манеры (іх меней), а астатнія…Кажуць, што гэта мастакоўскія эксперыменты, без якіх сучаснай паэзіі няма. Дык можа таму яе ніхто і не хоча чытаць, што адсутнічае ахвота прабівацца праз гэтыя джунглі ўбогасці думкі, спрошчанасці пачуцця і элементарнай адсутнасці густу?

Вось ледзь не анекдатычны прыклад. Адзін празаік, які слаба ведае граматыку і сінтаксіс, узрадаваўся магчымасці абыходзіцца без знакаў прыпынку. Цяпер ён лічыць сябе культавым пісьменнікам… З'явіліся, дарэчы, і пагер-вершы (ад англійскага *pager* — «пэйджар»). На шчасце, выпускам такой псеўдапаэзіі (іначай і не скажаш) дзяржаўныя выдавецтвы не займаюцца. Аднак ёсць жа крытыкі, гатовыя прыводзіць падобныя «эксперыменты» ў якасці прыкладу, як трэба пісаць, каб выглядаць сучасным. Па сутнасці, яны падштурхоўваюць творчую моладзь ісці малаперспектыўным шляхам. Ну, пагуляюць так званыя паэты з літаратурай, а далей? Усё жыццё гэтым займацца? Наўрад ці хто-небудзь, пасталеўшы, захоча працягваць.

## НІ ГРУКУ, НІ ГУКУ

Увогуле, молада — гэта не толькі зелена. Часам — і празмерная эмацыянальнасць, катэгарычнасць, упэўненасць у вартасці толькі ўласнай пазіцыі. Добра, калі цягам часу ўсё становіцца ў звыклыя рамкі. Менавіта так адбылося і з «Тутэйшымі».

Што існавала такая суполка ўжо мала хто ведае. А ў свой час колькі шуму было! Якія гарачыя запэўніванні ў жаданні стварыць новую літаратуру гучалі. Адно хіба нельга было не вітаць: шчырае адстойванне беларускасці. Адсюль, як няцяжка здагадацца, і назва суполкі. Ды чым усё гэта скончылася? Сёй-той па-ранейшаму піша і дасягнуў неблагога поспеху. Колькі чалавек і ў жыцці добра ўладкаваліся. Ёсць сярод колішніх «Тутэйшых» і бізнесмен, і рэдактар недзяржаўнага часопіса, і дырэктар дзяржаўнага выдавецтва, і аглядальнік сур'ёзнай газеты. Астатнія аказаліся звычайнай «пенай», што з'яўляецца ў шумную паводку, (якой і сталася так званая перабудова), а потым паступова знікае.

У тых, хто грукаў у металічныя тазікі — наўрад ці многія памятаюць, што і такія маладыя творцы былі, — выніковасць, па сутнасці, нулявая. А з пластмасавых — ні груку, ні гуку… З упартасцю, вартай лепшага прымянення, працягваецца гульня ў літаратуру: адны замахваюцца на сур'ёзныя творы, іншыя ніяк не могуць вырасці з дзіцячых пялюшак. Хоць, калі разабрацца, пры ўсім жаданні і не могуць, бо таленту не маюць.

Здольныя толькі адмаўляць сваіх папярэднікаў. Дый у гэтым таксама нічога новага. Яшчэ ў свой час маладнякоўцы выпучылі лозунг «У рожкі са старымі!». І што з гэтага атрымалася?.. Я не пра тое, што, на жаль, іх таксама не мінавалі рэпрэсіі. А пра тое, што ў «Маладняку», як вядома, была не адна сотня чалавек, а ў літаратуры засталіся нямногія. Тым больш прыкра, што сярод творчай моладзі знаходзяцца ахвочыя «паляпваць па плячы» памерлых класікаў.

Не хацелася б, каб гэткі лёс напаткаў тых, хто сёння з радасцю трымае ў руках свае першыя паэтычныя кнігі. Толькі пасля свята, як вядома, пачынаюцца будні. У тым ліку творчыя. Канечне, для самасцвярджэння найперш неабходны талент. Але аднаго таленту мала. Патрэбна яшчэ і праца. Творчая праца — не выключэнне. Наколькі яна будзе інтэнсіўнай, стане відаць па выніках. Таму сённяшнім дэбютантам жадаю толькі поспехаў. І на крытыку не крыўдаваць.

## ЦІ ВІНАВАТАЯ КРЫТЫКА?

Дарэчы, яшчэ пра саму крытыку. У літаратурным (дый каляліттаратурным) асяродку толькі і чуеш: маўляў, ад крытыкі ўсе беды. Будзе створаны так званы інстытут крытыкі, тады і творы цікавыя з'явяцца. Але ж падобныя абвінавачванні беспадстаўныя — хоць бы таму, што крытыка пры ўсёй павазе да яе — рэч другасная. Першаснае — сама літаратура.

Крытыка пры ўсім сваім жаданні літаратуру зрабіць не можа. Дый крытыка, калі яна сапраўдная, — гэта не крытыканства, як падаецца камусьці, а як мага больш аб'ектыўная ацэнка твора. Трэба не граміць ці хваліць, а гаварыць пра тое, чаго варты аўтар як пісьменнік, у чым ягоныя дасягненні, а ў чым пралікі. Нельга забываць і пра пачуццё меры. «Не нашкодзь!» — гэтым павінен кіравацца той, хто збіраецца павучаць ці ацэньваць чыюсьці творчасць. Хоць нельга не заўважыць: маладыя крытыкі пераважна хваляць маладых паэтаў і празаікаў — тых, хто толькі ўваходзіць у літаратуру. Як быццам і няблага. Але, зноў жа, трэба ведаць меру.

Нядаўна прачытаў у аглядзе ацэнку апавядання аднаго маладога аўтара — ці не першай ягонай публікацыі. Калі ж верыць крытыку, таксама маладому, дык у гэтым творы ёсць усё тое, што ў Дастаеўскага, Андрэева і яшчэ… Забыўся, на жаль, у каго. Усё ж такіх крайнасцей каб не было. Сумняваюся, што такая звышвысокая ацэнка неабходна і аўтару. Нездарма кажуць: што завельмі, то не здарова.

***

Магчыма, я і памыляюся. Лепш было б, калі б памыліўся і тады, калі гаварыў пра першыя паэтычныя кнігі, якія выдаюцца цяпер. Такая памылка для мяне будзе вельмі прыемнай. Літаратура паспяхова развіваецца тады, калі папаўняецца новымі талентамі. А гэта магчыма толькі пры несупыннай творчай працы.

Народны пісьменнік Беларусі Міхась Лынькоў казаў: «Дзярзайце, юнашы!». Ад сябе дадам: і дзяўчаты — таксама!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## Дарэчы

### ШМАТАБЛІЧНАЯ

Вершы Юліі Алейчанка, якія згадваў Алесь Марціновіч, можна пабачыць у «ЛіМе» № 30. Гэта паэзія сапраўднай жанчыны, калі ўвогуле дазваляльна ўжываць такія выразы ў апісанні літаратурнай творчасці. Пяць вершаў — і перад намі партрэт, які спалучае рысы ваяўнічай Дыяны, мудрай Афіны, клапатлівай Евы, шматпакутнай Дыдоны і дэманічнай Ліліт. «Я павінна забыцца / На ласкавыя вусны і жаданыя рукі, / Бо аднойчы яны / Задушаць мяне ўва сне». Каханне-пакута не выглядае ў вершах Юліі Алейчанка перабольшаннем. У адрозненне ад шматлікіх дзяўчат-філалагінь, яна не заломвае ў смутку рукі і не абвінавачвае ў нястачах нябёсы — паэтка выдатна разумее: там хапае іншых спраў. Стрыманую — і разам з тым жарсную — паэзію можна параўнаць са сталлю найвышэйшай пробы: халодная, яна разам з холадам выдае і той вялікі жар, у якім загартавалася. Хочацца верыць, што дэбютны зборнік Юліі Алейчанка з'явіцца неўзабаве і станецца падзеяй.

### ПРАВАКАЦЫЙНЫ

Донжуанскі спіс — ужо ў гэтым тоіцца правакацыя. Па-першае, узнікае пытанне з «дакументальнага» пункту гледжання: хто ведае, які той спіс насамрэч?.. Па-другое, пакідае сумнівы і этычны бок справы. А калі размова заходзіць пра такую асобу, як Уладзімір Караткевіч… Крытык і даследчык Дзяніс Марціновіч не застрашыўся гэтымі двума пунктамі. Вядома, сумнівы былі, пра што і сам ён піша ў прадмове да вядомай ужо кнігі «Жанчыны ў жыцці Уладзіміра Караткевіча» — і ўсё ж… Дзяніс Марціновіч, узяўшыся за тэму далікатную, не ператварыў яе ў бульваршчыну, але застаўся ад першай да апошняй старонкі ў межах літаратуразнаўчага даследавання: факты — са спасылкамі на крыніцы, супастаўленні — у адпаведнасці з логікай, без спакуслівых домыслаў.

### ЧАРОЎНАЯ

Іначай і не скажаш пра Алену Мальчэўскую. Ці яе дэбютную кнігу «Ша-ша з левага чаравіка». Ці пра іх абедзвюх. З чытачом аўтарка размаўляе ціха-ціха, голасам спакойным і разважлівым, і голас гэты ўсё адно выдатна чутно. Тым больш, што прамаўляе ён рэчы вялікія, самыя значныя для кожнага з нас. Прыкладам, вось такое: свет поўны таямніцаў, толькі трэба быць з імі далікатным і цярплівым, і тады таемнае разгорнецца перад табой. Альбо: сур'ёзна — не значыць добра, а смешна — не значыць няважна. Дзве казкі, што складаюцца з некалькіх частак, паказваюць свет звысоку і ў той жа час знутры, расстаўляючы па паліцах многія рэчы, што здаваліся нам зусім непад'ёмнымі ці заставаліся незаўважанымі. І ўсё ж «Ша-ша» — кніга, пра якую нявварта казаць з тае простай прычыны, што яе трэба чытаць, каб пачуць той самы чароўны голас, каб супакоіцца, і тады — пачуць голас свой.

### ЛЕТУЦЕННАЯ

Яшчэ адзін малады аўтар, якога варта згадаць, — паэтэса Аксана Ярашонак-Камінская. Менавіта паэтэса — не паэтка. У другім азначэнні чуецца моц, ваяўнічасць, смеласць, у той час як першае вымалёўвае вобраз тонкі і крохкі — але таксама не пазбаўлены сілы. Спадарыня Аксана мае зборнік «Звычайнае шчасце», выдадзены ў серыі «Маладая паэзія Беларусі». Назва яго, як і слова «паэтэса», гаворыць сама за сябе: гераіня знаходзіцца ў цёплым мроіве, сонечным паўсне, дзе хапае і суму, і радасці, але і сум гэты — светлы. Простыя словы, простыя рэчы… Такая паэзія Аксаны Ярашонак-Камінскай.

*Рыхтуецца да друку*

# Краіна, здольная здзіўляць



**«Беларуссю зачараваны» — так называецца творчы праект, у якім бяруць удзел у якасці аўтараў намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзіслаў Цыдзік і сябры Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Валянціна Гіруць-Русакевіч, Віктар Кажура, Ірына Карнаухава, Людміла Круглік, Рагнед Малахоўскі, Галіна Мароз, Галіна Нупрэйчык, Рэгіна Рэўтовіч, Віктар Сабалеўскі, Алена Стэльмах, Валерый Хіхіч, Уладзімір Цанунін. Не застаюцца ўбаку і паэты з Міншчыны Валянціна Анкудзінава, Бажэна Ганушкіна, Зінаіда Гасціловіч, Вера Лукашэвіч, Мікалай Марын, Алена Радкевіч, Генрых Тарасевіч, Марына Шапавалава, Анатоль Шкода.**

Уладзіслаў Цыдзік — вялікі прыхільнік роднай прыроды. Цікавасць да аграноміі ўзнікла ў дзяцінстве: вёска, сялянская праца... І сёння сэрца цешаць успаміны пра краскі ў матуліным кветніку… Праца ў сістэме Дзяржкантролю краіны была непасрэдна звязана з паездкамі па Беларусі, Уладзіслаў Станіслававіч абавязкова браў з сабой фотаапарат.

Часам у аб'ектыў траплялі кадры безгаспадарлівасці — яны таксама станавіліся дзейсным сродкам для выпраўлення становішча. Але былі і прыклады ўпарадкаванасці, прыгажосці, якія міжволі хацелася захаваць на добры ўспамін. Так у асабістым архіве збіраліся здымкі. Яны выклікаюць уздым эмоцый, услаўляюць Беларусь — краіну, здольную здзіўляць. Уладзіслаў Цыдзік упэўнены: прыгожае расквечвае жыццё новымі фарбамі. Год таму ён аформіў фотавыстаўку, якая з поспехам дэманструецца ў розных установах, культурных цэнтрах Беларусі.

І вось надышоў час сабраць багатую калекцыю ў альбом. З просьбай дапоўніць свае творы вершамі Уладзіслаў Станіслававіч звярнуўся да паэтаў Міншчыны. Майстры слова на творчую прапанову ахвотна адгукнуліся ўзнёслымі радкамі.

Альбом складаецца з некалькіх раздзелаў. Пачынаецца падарожжа па сцяжынках Радзімы з плошчы Незалежнасці. Разам з Уладзіславам Цыдзікам выказвае сваё захапленне сталіцай Рэгіна Рэўтовіч.

Далей на старонках альбома адна другую змяняюць поры года. Уладзіслаў Цыдзік любіць спыняць позірк на краявідах, якія для сучаснага чалавека ў гэты звышімклівы час бываюць проста незаўважныя. Фатограф захапляецца веселосцю сціплых першацветаў, дыханнем узаранага поля, бляскам азёрнай хвалі… І паэтычная душа Віктара Кажуры падхоплівае гэты настрой:

*Беларусь, мая заранка,*
*Казка дзіўная мая!*
*Тут празрыстым светлым ранкам*
*Будзіць пошчык салаўя…*

Ёсць і кадры, напоўненыя глыбокім філасофскім роздумам. Дрэва, якое перажыло на вяку нямала выпрабаванняў і схілілася пад іх цяжарам над люстрам ляснога возера. Моц каранёў — як прыклад пераадолення любых цяжкасцей. Да фотаздымка — верш Бажэны Ганушкінай:

*У люстры азёрным адбітак —*
*Ссівелая мудрасць жыцця*
*Запісвае вечнасці ў сшытак*
*Сакрэты яднання-зліцця.*

Такой жа бяздоннай крыніцай для асэнсавання жыцця пільны назіральнік бачыць і неба, дзе часам змагаюцца сілы цемры і святла. На чыім баку будзе перамога? Адказ — у жыццесцвярджальных радках Валянціны Гіруць-Русакевіч:

*Вайна аблокаў з сонцам — да крыві…*
*Якая толькі сіла іх звязала так?*
*Жывіце, воблачкі, ты, сонейка, жыві,*
*Хай вецер зло прагоніць з Неба-хаты!*

Нацыянальныя традыцыі беларусаў, прыцягальная сіла бацькаўшчыны, вялікая духоўная спадчына — усім гэтым зачароўвае Беларусь, усё гэта робіць яе непаўторнай. Беларускія матывы, якімі прасякнуты здымкі Уладзіслава Цыдзіка, падхопліваюць многія аўтары, у іх ліку і Віктар Сабалеўскі.

Альбом «Беларуссю зачараваны» на дзіва гарманічны ў адзінстве душэўнага настрою аўтара фотаздымкаў і майстроў мастацкага слова. Спадзяёмся, што гэта захапленне адчуюць усе, хто пазнаёміцца з выданнем, якое ў хуткім часе пабачыць свет у Выдавецкім доме «Звязда».

**Алена СТЭЛЬМАХ**

*Унікальны праект*

# Харэограф, рэжысёр… Майстар!

**Калі знаёмішся з выданнямі падобнага кшталту, міжволі з'яўляецца адчуванне, што не кнігу чытаеш, а гартаеш сямейны альбом.**

Або, стаўшы нябачным, прысутнічаеш на сустрэчы сяброў, якія даверальна, шчыра і адкрыта вядуць гутарку пра роднага і блізкага чалавека.

Таму герой кнігі таксама становіцца чытачу бліжэйшым, а праз прызму ўспамінаў яго калег і сяброў бачацца сапраўды значныя, істотныя, вызначальныя рысы яго асобы. Так, дзякуючы руплівай працы ўкладальніка новага выдання з серыі «Выдатныя постаці Беларусі», вядомага этнахарэолага Міколы Козенкі, шырокаму чытачу адкрыліся новыя рысы асобы заснавальніка і кіраўніка легендарных «Харошак», рэжысёра, харэографа Мікалая Дудчанкі.

Пра творчыя і прафесійныя дасягненні Мікалая Рыгоравіча можна распавядаць шмат: паспяховая дзейнасць харэаграфічнага ансамбля «Вяснянка» ў Магілёве, бліскучая кар'ера «Харошак» (калектыў створаны сумесна з Валянцінай Гаявой), поспех ансамбля «Бліскавіца», званне заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь. А яшчэ — рэжысура рэспубліканскіх фестываляў народнага і харэаграфічнага мастацтва, аўтарства сцэнарыяў, пастаноўка юбілейных мерапрыемстваў і тэатралізаваных свят, балетмайстарска-пастановачная праца ў оперы «Дзікае паляванне караля Стаха», аўтарства больш як 100 арыгінальных харэаграфічных мініяцюр, кампазіцый, танцаў, у тым ліку на аснове беларускага харэаграфічнага фальклору…

Адметна, што аўтары тэкстаў з гэтага выдання — сябры, паплечнікі, калегі, сваякі майстра — не спыняюцца адно на пераліку творчых і прафесійных перамог Мікалая Дудчанкі, а звяртаюць увагу перадусім на асабістыя




*Неўтаймаваны: да 70-годдзя Мікалая Дудчанкі. — Мінск: Беларускі фонд культуры, 2015. — 196 с.*

якасці выдатнага рэжысёра. Нядзіўна — хочацца раскрываць сакрэт паспяховасці кар'еры.

Які ж ён, легендарны Мікалай Дудчанка, у жыцці і працы?

Ва ўступным артыкуле да кнігі Інеса Каралёва піша: «Ён дорыць жанчынам, здаецца, усё. Не дорыць толькі благі густ, дрэнную постаць і бестактоўнасць. А вось з мужчынамі ён зусім іншы — задзірысты, азартны, як хлапчук». Кандыдат культуралогіі, загадчык кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ Вячаслаў Калацэй зазначае: «ён мае ўласны погляд на ўсё: ад лексікі народнага танца і гісторыі фіна-ўгорскага касцюма да геапалітыкі, аналізу акалічнасцей Другой сусветнай вайны і семіятычных, лінгвістычных параўнанняў у тапаніміцы і геральдыцы».

Становіцца зразумела, што перад намі выданне, прысвечанае сапраўды неардынарнай асобе, што ў аснове поспеху вядомага рэжысёра — не толькі талент, але і цяжкая праца, пастаяннае самаўдасканаленне. Пра Мікалая Дудчанку ў гэтай кнізе распавядаюць не толькі яго калегі і паплечнікі з розных гарадоў Беларусі, Расіі, Украіны, але і ён сам. У грунтоўных інтэрв'ю, запісаных Міколам Козенкам, майстар шчыра і даверальна дзеліцца думкамі і пачуццямі, што ён перажываў на розных этапах жыццёвага і творчага шляху, дзеліцца сакрэтамі і назіраннямі. Мікалай Рыгоравіч распавядае: «Прафесійная праца патрабуе каласальнага напружання, удумлівасці, а галоўнае — паспець за кароткі перыяд зрабіць тое, што ў звычайны час патрабуе больш працяглых тэрмінаў».

Зрэшты, ёсць у гэтым выданні і старонкі, не звязаныя з творчай дзейнасцю і рэжысёрска-харэаграфічнай працай майстра. Гэта ўспаміны-пасланне бацьку ад яго дачкі Таццяны, якая абрала прафесію псіхолага.

Асобнай увагі патрабуюць і фотаздымкі з асабістага архіва Мікалая Дудчанкі. Мы бачым зусім маленькага хлопчыка з татам, братамі і сёстрамі, сочым за яго прафесійным станаўленнем, жыццёвым шляхам, становімся сведкамі вяселля з Валянцінай Гаявой, ператвараемся ў гледачоў многіх харэаграфічных пастановак і спектакляў. Разам з рэжысёрам чытач трапляе за кулісы і наведвае рэпетыцыі, удзельнічае ў падрыхтоўцы і правядзенні рэспубліканскага фальклорнага фестываля «Берагіня»…

Адметна, што ў выданне ўвайшлі і даследаванні самога Мікалая Дудчанкі, яго тэарэтычныя працы і практычныя напрацоўкі адносна беларускага харэаграфічнага фальклору, сцэнарныя планы святкаванняў, метадычныя рэкамендацыі для кіраўнікоў калектываў народнага танца.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Планета гаспадынь свайго жыцця

**Жанчын можна смела параўнаць з сіламі прыроды — сонца і дажджу, ветру і вады. Выклікае сумнеў гіпотэза пра тое, што ёсць пол моцны і слабы. Хіба толькі фізічна. Калі ты гаспадыня свайго лёсу, магчыма дасягнуць поспехаў і ў прафесіі, і ў сям'і. Заняць высокі пост ці адкрыць уласную кавярню, стварыць утульную атмасферу ў доме, выгадаваць дзяцей, жыць у гармоніі і згодзе з мужчынам. Не верыце? Пазнаёмцеся з рэальнымі гісторыямі тых, на чые далікатныя плечы леглі не толькі абавязкі, цяжкасці, але і жорсткія выпрабаванні. І гэтыя жанчыны, пераадолеўшы ўсё, знайшлі сваё шчасце!**

Перад вамі — дваццаць пяць гераінь з кнігі Надзеі Дрыла «Сустрэчы без абцасаў», што выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда». Хто яны? Дэпутаты і прадстаўніцы мясцовай улады, бізнес-лэдзі, паспяховыя журналісткі, тэлевядучыя і фітнес-трэнеры, дырэктары прадпрыемстваў і галоўныя ўрачы, заснавальніцы цэнтраў усынаўлення і хоспісаў, псіхолагі і мастацкія кіраўнікі… Мы можам даведацца пра іх жыццёвы шлях, рысы характару, думкі і мары. Навошта? Каб адказаць на свае ўласныя пытанні.




На вокладцы — гасцінна адчыненыя дзверы, какетліва скінутыя жаночыя туфлікі, пастаці, што размаўляюць у паўзмроку таемнага пакоя, здаецца, за кубачкам гарбаты... Ці так гэта важна? На якасць тэкстаў, зразумела, вокладка не ўплывае, але яна вельмі тонка перагукаецца са зместам выдання.

Шчырыя, душэўныя інтэрв'ю, з якіх складаецца кніга, нагадваюць маленькія дакументальныя стужкі. Справа ў мове, якой валодае аўтар: лёгкая, вытанчаная. І добрыя фота, што суправаджаюць тэксты. Псіхалагічнае ўздзеянне размоў, сведкамі якіх становіцца чытач, уражвае: гісторыі натхняюць, змушаюць варушыцца, рабіць тое, што даўно хацелася, але не хапала мужнасці, цаніць кожную хвіліну і ніколі не скардзіцца.

«Жанчына павінна насуперак усім пражыць сваё жыццё як хоча, ці ёй давядзецца прызнаць, што яна не жыла зусім», — казаў пісьменнік Дэвід Лоўрэнс. Суразмоўцы Надзеі Дрыла здолелі гэта зрабіць. І ў іх шмат планаў на будучыню.

Як кажа аўтар, зморшчынкі на твары і руках жанчыны адыходзяць на другі план, калі вочы свецяцца любоўю і дабрынёй. Такой выглядае, напрыклад, Вольга Мычко, галоўны ўрач анкалагічнага хоспіса для дарослых, чалавек, які сутыкаецца са смерцю амаль кожны дзень, але застаецца аптымістам. Па жыцці Вольгу вядзе жаданне дапамагаць людзям, бо яна добра ведае: здароўе родных — самае каштоўнае на свеце. Яшчэ адну гераіню, Валянціну Вайцяшонак, лёс не песціў: страціла мужа і сына. Іншая на яе месцы даўно б здалася. Але памяць пра блізкіх людзей, якія змагаліся за жыццё, не дазволіла стаць слабай. Сёння Валянціна ўпэўнена: чалавек, які прайшоў праз вялікае гора, пачынае цаніць жыццё. Для яе не бывае кепскага надвор'я ці настрою. Яна не ўмее адкладаць на заўтра важныя словы, запаветныя мары, усмешкі, сустрэчы з дарагімі людзьмі … Ці не ў гэтым вялікая мудрасць і сіла?

У прадмове да кнігі паэтка Валянціна Паліканіна ўдала зазначыла: «Гэтыя жанчыны — Мюнхгаўзены! Яны выдзіраюць самі сябе за касу з любых жыццёвых непрыемнасцяў! І не даюць іншым апускаць рук».

Цытаты з інтэрв'ю можна запісваць у нататнік пад назвай «У хвіліны дэпрэсіі» — і яе не будзе ніколі. «Жанчына без унутранага зместу — гэта заўсёды вельмі трагічна», — кажа Наталля Наважылава, былая тэлевядучая, што выкладае сучасны фітнес ва ўласным цэнтры «Багіра». Яе філасофія ўвогуле схіляе да змен і самаўдасканалення. Наталля ўпэўнена, што для жанчыны на першым месцы павінна быць імкненне развівацца духоўна, сачыць за здароўем, а не ператварацца ў груваcткую цётку, што днямі мые бялізну і варыць баршчы ці, наадварот, паненку з трыма тонамі макіяжу на твары. «Калі мяне пытаюцца пра ўзрост, кажу, што мне два разы па 25. Я свайго ўзросту не адчуваю, ён мяне не напружвае, не турбуе», — лічыць Наталля. Па яе словах, трэба проста разумець, што жыццё даецца адзін раз: «Хочаш надзець кароткую спадніцу — надзень, хочаш праспяваць у парку — наперад!».

Жыццесцвярджальных правілаў (лозунгаў ці проста мудрых высноў) у кнізе шмат, і гэта абавязкова дапаможа чытачам глыбей зазірнуць у сябе — зразумець уласныя думкі і адчуванні. Бо няма лепшага дарадцы, чым прыклады з жыцця тых, хто не раз, пераадольваючы новыя перашкоды, выходзіў да наступнага старту.

Кіраўнік аднаго з буйных беларускіх жаночых парталаў Святлана Зэрэ трапна падкрэслівае: «Не чакайце прынца, ляпіце з сябе прынцэсу». Яна пачала зарабляць грошы, як толькі навучылася лічыць. У 5 гадоў дапамагала бабулі фасаваць цукар на адной з баз «Бакалеі», каб самастойна купіць у кіёску смачны арэхавы коржык. Не ўсё было на яе шляху гладка і проста. Хутчэй, наадварот. І вось, пераадолеўшы дэпрэсію і крызіс як у прафесійным, так і ў сямейным плане, яна настойліва прапануе жанчынам адкінуць страхі і не баяцца рэзкіх перамен. Заўсёды ёсць шанец палепшыць жыццё: змяніць нелюбімую працу, знешнасць ці кола знаёмых. «Калі ты дазваляеш сабе думаць шырэй, немагчымае становіцца магчымым», — сцвярджае Святлана.

Вы яшчэ сумняваецеся, што «Сустрэчы без абцасаў» — гэта лепш, чым візіт да псіхааналітыка ці чарговая серыя «мыльнай оперы» з мэтай «хаця б там пабачыць сапраўднае жыццё»? Упэўніцеся: у вас яно будзе лепшым, прычым ужо зусім хутка!

Кніга раскрывае не толькі гісторыі поспехаў — перамогі ідуць побач з трагедыямі, падзенні з узлётамі. Гэтым выданне і цікавае. У ім няма чорнага і белага, кожная гераіня «намалявана» некалькімі колерамі, заўсёды без рэтушы.

Якія пытанні аўтар задае жанчынам у інтэрв'ю? Пра што яны расказваюць? Пра ўсё! Нават дробныя рэчы, якія і ствараюць поўную карціну жыцця: раніцу ў шэсць гадзін, якая пачынаецца з кавы і нягучнай музыкі, вадзіцельскі стаж у больш як трыццаць гадоў, непрыманне подласцей і імкненне да чалавечнасці, клопаты пра калектыў на працы, стыль кіравання... Абавязкова гутарка заходзіць пра дзяцінства, абавязкова — пра прафесійны выбар. А яшчэ — талісманы і сімвалы, магія лічбаў і рэлігія, вандроўкі па свеце і любоў да радзімы… Не абыходзіцца без філасофскіх разваг пра мужчын, уменне ахвяраваць дзеля іншых, дасягаць поспехаў у любой справе, шчасце мацярынства, веру ў сябе і вырашэнне канфліктаў.

З кожнай гісторыі бачна, што аўтар выказвае шчыры інтарэс да людзей, знаходзіць у размовах самае цікавае, важнае і ўмела распавядае пра гэта.

**Марыя ВОЙЦІК**



# Сакрэты дзявочыя




*Таццяна Сівец. Самы лепшы падарунак: гісторыі адной дзяўчынкі. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2014. — 56 с.*

Думаецца, што многія з нас атрымаюць асалоду ад знаёмства з гэтай кнігай найбольшае задавальненне. І справа не толькі ў прывабнай вокладцы, выдатных малюнках Ганны Раманоўскай, сюжэце, але і ў шчырасці, давяральнасці гутаркі, якую аўтарка вядзе з чытачом. Мы нібыта зазіраем у жыццё маленькай Таццянкі, разам з ёй ходзім у садок, сябруем з Валем і Кацяй, хварэем, перажываем маленькія і вялікія радасці і расчараванні. Хіба бываюць у дзяцей расчараванні і клопаты? Натуральна! Пісьменніца не іранізуе з сябе маленькай, а распавядае ўсё так, як было, як памятае.

І думкі гераіні кнігі Таццяны Сівец не заўсёды пазітыўныя, а настрой — не толькі бясхмарны. Дзіцячыя кнігі мусяць быць вясёлымі і забаўляльнымі? Вось і не. Памятаеце сябе ў дзяцінстве? Заўсёды было весела? Калі памірала любімае кацяня, ламаліся цацкі, малодшая сястра так і старалася нашкодзіць, зімою трэба было рана ўставаць і ісці ў садок… Як і ў жыцці дарослых, у дзяцей таксама здараюцца свае трагедыі. І бадай самая вялікая з іх — расстанне бацькоў. Калі разводзяцца бацькі, Таццянцы горка і сумна, аднак яе гісторыя можа дапамагчы іншым дзеткам, якія спачатку таксама не ведаюць, як перастаць абвінавачваць сябе і не плакаць начамі пад коўдрай.

Думаецца, і многім хлопчыкам хацелася б зазірнуць у загадкавы свет дзяўчынак. Усе гэтыя сукенкі, лялькі, туфлікі…

Ці ўмеюць дзяўчынкі сябраваць? Ці балюча ім, калі тузаюць за коскі? Ці можна разам з імі гуляць? Маме ці бабулі такія пытанні задаваць няёмка. Тады хто падкажа? Таццянка і кніга «Самы лепшы падарунак». Зрэшты, разводзяцца не толькі бацькі дзяўчынак. І разуменне таго, што ты не адзін апынуўся ў такім складаным становішчы, можа дапамагчы справіцца і прыняць новы лад жыцця.

Гісторыі Таццянкі — вельмі лёгкая і сімпатычная кніга. Заўсёды прыемна ўспамінаць дзяцінства, радавацца, прыгадваючы шчаслівыя моманты і смяяцца з перажыванняў, якія на той час падаваліся надзвычай важнымі: мама прымусіла апрануць нелюбімую сукенку, у садку патрэбна есці тушаную капусту, якая на смак падаецца горкай... У кожнага з нас ёсць такія гісторыі. Успамінаеш — на душы становіцца цёпла-цёпла ці сумнасумна. Прыемна параўноўваць свае гісторыі з гісторыямі іншых дзяцей. Мы ўсе былі аднолькава малыя, але кожны быў па-свойму шчаслівы ці няшчасны. Спадзяюся, часцей — шчаслівы.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Знічка на небе філалогіі

**Гісторыя любой навукі, станаўленне і развіццё галіны — гэта творчыя набыткі кожнага вучонага, які зрабіў унёсак у агульную скарбонку дасягненняў. Гэтаму мовазнаўцу лёс падарыў няпоўныя 42 гады жыцця, але і за такі кароткі час ён здолеў пакінуць у гісторыі айчыннай лінгвістыкі прыкметны след…**

Барыс Сцяпанавіч Лапаў нарадзіўся ў Мінску 28 верасня 1925 г. Бацька па прафесіі быў ганчаром, але даволі рана памёр. Шасцігадовы Барыс і яго малодшы брат засталіся з маці. Ва ўмовах шкоднай вытворчасці яна сапсавала здароўе, стала інвалідам па працы. Пасля вайны працавала прыбіральшчыцай…

Па заканчэнні сямі класаў СШ № 2 Барыс Лапаў паступіў на першы курс школьнага аддзялення Мінскага педвучылішча імя Н. Крупскай (1940), якое скончыў з адзнакай толькі пасля вайны (1946). У час акупацыі Мінска, каб сям'я магла выжыць, з канца 1942 года вымушаны быў пайсці працаваць грузчыкам. Пасля вызвалення па стане здароўя Барыса не ўзялі на фронт, і ён працягнуў вучобу ў педагагічным вучылішчы. Восенню 1946 года як выдатнік без экзаменаў быў залічаны на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Яшчэ ў педвучылішчы з-за складанага матэрыяльнага становішча сям'і пачаў працаваць: спачатку загадчыкам бібліятэкі педвучылішча, а затым у газеце «Калгасная праўда», дзе прайшоў шлях ад старшага карэктара да загадчыка карэктарскай і літаратурнага супрацоўніка аддзела крытыкі, бібліяграфіі і агляднаў друку. Па заканчэнні з адзнакай БДУ (1951) адразу ж паступіў у аспірантуру Інстытута мовазнаўства АН БССР. Аб'ектам сваіх навуковых даследаванняў малады вучоны абраў сінтаксіс старабеларускай мовы, тэма дысертацыі — «Парадак слоў у беларускай мове на матэрыяле помнікаў XV — XVII стст. (месца дзейніка і выказніка ў простым сказе)». Навуковым кіраўніком стаў вядомы савецкі вучоны, маскоўскі прафесар В. Баркоўскі.

За тэрмін навучання ў аспірантуры кандыдацкая дысертацыя фактычна была завершана, што з'явілася падставай для залічэння Барыса Лапава адразу на пасаду выконваючага абавязкі вучонага сакратара акадэмічнага інстытута (1954 — 1955). Відаць, адміністрацыйная работа не надта задавальняла маладога навукоўца. Пасля паспяховай абароны, якая адбылася 26 сакавіка 1955 года, ён перайшоў на пасаду старшага навуковага супрацоўніка сектара сучаснай беларускай мовы і культуры мовы і адразу ж актыўна ўключыўся ў напружаную акадэмічную навукова-даследчую працу. Яшчэ студэнтам і аспірантам Барыс Лапаў удзельнічаў у зборы матэрыялаў для «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (асабіста даследаваў 6 населеных пунктаў).

Як навуковы супрацоўнік інстытута быў уключаны ў склад аўтарскіх калектываў па напісанні такіх, вельмі неабходных і адметных у пасляваенны перыяд вучэбных дапаможнікаў для студэнтаў ВНУ, як «Нарысы па гісторыі беларускай мовы», «Курс сучаснай беларускай мовы. Сінтаксіс», «Зборнік практыкаванняў па сучаснай беларускай мове» і іншых. Адначасова Барыс Лапаў друкуе грунтоўныя артыкулы ў акадэмічным навуковым зборніку «Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР», шэраг матэрыялаў у часопісах і газетах («Народная асвета», «Літаратура і мастацтва», «Калгасная праўда» і інш.) па пытаннях культуры беларускай мовы, рэцэнзіі на розныя навуковыя, вучэбныя і літаратурна-мастацкія выданні.

Барыс Лапаў актыўна ўдзельнічаў у стварэнні першай акадэмічнай нарматыўнай граматыкі беларускай мовы, для якой ім напісаны раздзелы «Займеннік», «Лічэбнік», «Катэгорыі асобы, трывання, часу, ладу дзеясловаў», «Дзееприметнік», «Дзеепрыслоўе», а таксама «Словазлучэнні з лічэбнікам у ролі галоўнага слова», «Словазлучэнні з займеннікам у ролі галоўнага слова», «Віды простых сказаў. Парадак слоў у простых двухсастаўных сказах» ды іншыя.

> *Аб'ектам сваіх навуковых даследаванняў малады вучоны абраў сінтаксіс старабеларускай мовы, тэма дысертацыі — «Парадак слоў у беларускай мове на матэрыяле помнікаў XV — XVII стст. (месца дзейніка і выказніка ў простым сказе)». Навуковым кіраўніком стаў вядомы савецкі вучоны, маскоўскі прафесар В.І. Баркоўскі.*

З верасня 1964 г. Барыс Лапаў быў абраны па конкурсе на пасаду дацэнта кафедры беларускай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага. Тут ён чытаў курс «Сучасная беларуская літаратурная мова», кіраваў навуковым студэнцкім гуртком «Праблемы стылістыкі беларускай мовы», быў членам савета клуба «Жывое слова», удзельнічаў у розных грамадскіх мерапрыемствах, адным з першых у пасляваеннай беларусістыцы актыўна распрацоўваў пытанні стылістыкі, культуры мовы і ўзаемадзеяння беларускай мовы з іншымі славянскімі мовамі, рэгулярна прапагандаваў дасягненні беларускага мовазнаўства і мастацкіх твораў айчынных пісьменнікаў у перыядычным друку. Як адзначаецца ў характарыстыцы за подпісам тагачаснага рэктара Інстытута І. К. Лакіна, «ён адзін з лепшых куратараў філалагічнага і літаратурна-музычнага факультэтаў».

За добрасумленную працу Барыс Лапаў неаднаразова заахвочваўся кіраўніцтвам педагагічнага інстытута.

Многа яшчэ мог стварыць Барыс Лапаў, аднак заўчасная смерць (13 жніўня 1967 г.), на жаль, спыніла ў самым росквіце плённую творчую працу. Так склалася, што апошні матэрыял навукоўца быў надрукаваны менавіта ў газеце «Літаратура і мастацтва» 25 жніўня 1967 года — амаль праз два тыдні пасля таго, як аўтара публікацыі не стала. Гэта была рэцэнзія на першы том «Беларускай антрапаніміі» (1966) Мікалая Бірылы пад назвай «Даследуецца імя чалавечае».

У творчую спадчыну нам засталося амаль тры дзясяткі навуковых мовазнаўчых публікацый, прысвечаных надзённым пытанням гісторыі і сучаснага стану беларускай літаратурнай мовы, народных гаворак, стылістыкі і культуры беларускага маўлення, а таксама больш як дзясятак літаратуразнаўчых артыкулаў. Яны пакінулі адметны след у беларусістыцы і да гэтага часу запатрабаваны навукова-педагагічнай грамадскасцю краіны. А імя Барыса Лапава назаўсёды застанецца ў гісторыі айчыннай філалогіі.

**Павел МІХАЙЛАЎ**

# Жыццё як фэнтэзі

На адным з інтэрнэт-парталаў прачытала: «Сучасная беларуская фантастыка не толькі існуе, але і выдаецца». Гэта пацвярджае і размова з маладым пісьменнікам-фантастам, пераможцам разнастайных конкурсаў і ўдзельнікам праектаў у галіне фантастыкі, аўтарам рамана «Конкурс "Міс Галактыка"» (АСТ, 2014), а да ўсяго яшчэ і мікрабіёлагам Аляксандрам Змушко, ці Сашам Тэмлейнам, — такі творчы псеўданім у нашага героя.

**— Бацькі падтрымліваюць ваша захапленне літаратурнай творчасцю?**

— Пасля таго, як у мяне з'явіліся друкаваныя публікацыі ў часопісах і я атрымаў свой першы ганарар за кнігу, стаўленне бацькоў памянялася ў лепшы бок. Аднак бацька і сёння лічыць, што пішу нейкую малазразумелую «фэнтэзяціну». Але я стаўлюся да гэтага з гумарам.

**— А што азначае ваш псеўданім? Сапраўдным імем не падпісваецеся?**

— Чаму? Часам падпісваюся. Яшчэ часцей выдаўцы забываюцца пра маю просьбу наконт псеўданіма і падпісваюць творы сапраўдным імем і прозвішчам. Але гэта не страшна… Псеўданім жа ўзяты з міфалогіі: Тэмлейнам звалі юнака, выхаванага эльфамі і выратаванага закаханай дзяўчынай. Да таго ж ён меў рэпутацыю лавеласа.

**— Як ставіцеся да крытыкі?**

— Напісанае звычайна рассылаю па выдавецтвах. Зрэдку выкладваю на форумах або паказваю сябрам. А да крытыкі стаўлюся пазітыўна толькі ў тым выпадку, калі яна ўдумлівая.

**— Ці ёсць такія творы, якія вы ніколі нікому не паказвалі?**

— Калі ўлічыць, што напісаў 7 раманаў і больш як 300 апавяданняў, хутчэй за ўсё, знойдуцца нейкія чарнавыя працы, якія ніхто ніколі не бачыў.

**— У вас ёсць публікацыі як у беларускіх, так і ў расійскіх часопісах. Чым адрозніваецца сучаснае літаратурнае жыццё дзвюх краін-суседак?**

— Паколькі я толькі пачынаю друкавацца ў Беларусі, цяжка адказаць на гэтае пытанне. Сітуацыя ў сучасным грамадстве склалася так, што пісьменнік не можа зарабляць выключна сваёй творчасцю. Нехта працуе ў рэдакцыях перыядычных выданняў, нехта — у школах…

**— Ці перашкаджае творчасці праца мікрабіёлагам?**

— Вядома, перашкаджае, але і натхняе.

**— Ведаю, што цікавіцеся міфалогіяй. Міфы якіх народаў вабяць найбольш? Ці захапляюць сюжэты і героі беларускай міфалогіі?**

— Вельмі люблю міфы Старажытнага Егіпта, Месапатаміі, Індыі, скандынаваў, ірландцаў, мая, інкаў. Увогуле любая міфалогія можа зацікавіць. І беларуская таксама. Цяпер якраз збіраю матэрыял для фэнтэзі, заснаваны на беларускай міфалогіі.

**— Некаторыя з вашых апавяданняў перакладзены на беларускую мову. На роднай мове не пішаце?**

— Я сам пераклаў свае апавяданні. Задаволены. Мова вельмі прыгожая! Цяпер не пішу па-беларуску, але надалей планую.

**— Вы неаднаразовы ўдзельнік і пераможца літаратурных конкурсаў. Ці прыносіць гэта плён?**

— Так. Найперш — задавальненне ад стасункаў з цікавымі, эрудзіраванымі, таленавітымі людзьмі. Адны конкурсы дапамагаюць публікавацца, другія прыносяць грашовыя ды іншыя ўзнагароды.

**— Ваш чытач — гэта…**

— …той, хто любіць жыццё ва ўсіх яго праявах.

**— Калі лепш пішацца?**

— Раніцай, на свежую галаву.

**— Як адпачываеце?**

— Чытаю любімыя кнігі, гуляю ў парку, гляджу фільмы, п'ю гарбату з шакаладам.

**— Што выбіраеце як аўтар і як чытач: друкаваную кнігу ці электронную?**

— Вядома, друкаваную. Сёння электронная актыўна набірае моц, але друкаваная не губляе прыярытэту, перш за ўсё — для пісьменнікаў. Друкаваная публікацыя мае нашмат большую вагу ў параўнанні з электроннай. Ды і як чытач я выбіраю друкаваныя кнігі.

**Аксана ЯРАШОНАК**

*На паліцы*

# Смех і не толькі

**Кніга Уладзіміра Ліпскага з малюнкамі Алега Карповіча «Над Аўцюкамі тармазні» (Мінск: Мастацкая літаратура, 2015) — зборнік невялікіх гісторый, прымавак, анекдотаў, якія распавялі жыхары беларускай «сталіцы гумару» — вёсак Малыя і Вялікія Аўцюкі.**



Жыхары Аўцюкоў славяцца сваім аптымізмам, адвагай, вынаходлівасцю і, вядома ж, выдатным пачуццём гумару.

Кур'ёзы пачынаюцца ўжо з назваў вёсак: Вялікія Аўцюкі на сто шэсцьдзясят шэсць двароў меншы за Малыя.

Як і належыць, у вёскі багатая гістарычная спадчына. Упершыню Аўцюкі згадваюцца яшчэ ў дакуменце, датаваным 1552 годам. Таксама «каласкі» (так ласкава называюць адзін аднаго жыхары вёсак) вядомыя ўдзелам у Мазырскім паўстанні 1648 года. Многія з аўцюкоўцаў загінулі падчас Другой сусветнай вайны, але знайшлі-такі мужнасць… пасмяяцца перад газавай камерай.

«Каласок» заўжды супрацьпастаўляе жыццёвым нягодам пачуццё гумару. Без жартаў у Аўцюках не абыходзіцца ніводная падзея: ад вяселля да пахавання. І будні праходзяць з жартам і прымаўкай. Нядзіўна, што кожны год 8 — 9 жніўня менавіта ў Аўцюках ладзіцца фэст народнага гумару.

Кніга рэкамендуецца ўсім, хто хоча пазнаёміцца з гісторыяй сталіцы беларускага гумару і проста ад душы пасмяяцца.

**Ілья ІВАНОЎ**

# Аўтограф і экслібрыс Кандзінскага

## Дароўны надпіс вядомага мастака і яго кніжны знак выяўленыя на выданнях з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

### КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА МАЙСТРА

Васіль Кандзінскі — рускі і нямецкі мастак, жывапісец і графік, адзін з заснавальнікаў школы абстрактнага мастацтва, аўтар тэарэтычных работ, педагог, актыўны грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў Маскве ў сям'і камерсанта. Бацька родам з Нерчынска, з дынастыі сібірскіх купцоў, маці — масквічка. Бабуля па маці была немкаю, таму будучы мастак добра валодаў як рускай, так і нямецкай мовамі. Дзяцінства яго прайшло ў Адэсе — горадзе-порце, дзе зліваліся ў адну шумную плынь розныя мовы, культуры, звычаі. Бацька Кандзінскага быў мастаком-аматарам, прывучаў і сына да заняткаў малюнкам, жывапісам.

У 1885 годзе, пасля заканчэння адэскай класічнай гімназіі, малады Васіль паступіў на юрыдычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта, дзе займаўся на кафедры палітычнай эканоміі і статыстыкі. Яго цікавілі ідэі аб'яднання ўніверсітэцкіх студэнтаў, этнаграфічныя экспедыцыі па Рускай Поўначы, музеі і мастацкія выстаўкі ў Маскве. Асабліва ўзрушыла маладога Кандзінскага на адной такой выстаўцы (1895 г.) карціна «Стог сена» французскага імпрэсіяніста Клода Манэ. Эканоміка і статыстыка сталі адыходзіць на другі план, адносна мэтазгоднасці далейшай вучобы з'явілася сумненне. Па заканчэнні ўніверсітэта ён адмовіўся ад будучай выкладчыцкай працы ў Дэрпце (цяпер Тарту, Эстонія) і прысвяціў сябе выяўленчаму мастацтву.

Для набыцця новых ведаў у 1896 годзе Васіль вырашыў ехаць у Германію, у Мюнхен, дзе знаходзілася Каралеўская акадэмія мастацтваў, размяшчаліся многія музеі, штогод праходзілі выстаўкі сучаснага мастацтва, квітнелі прыватныя мастацкія школы. Атрымаўшы адукацыю ў прыватнай школе Антона Ажбэ (з самых лепшых), у 1900 годзе Кандзінскі паступіў у Мюнхенскую акадэмію мастацтваў. Адной з яго рэвалюцыйных мастацкіх ідэй было меркаванне: «мастак не толькі можа, але і абавязаны ставіцца да форм так, як гэта неабходна для яго мэт». На працягу жыцця Васіль Кандзінскі актыўна ладзіў выстаўкі сваіх карцін і графікі ў Берліне, Маскве, Мюнхене, Нью-Ёрку, Парыжы, Санкт-Пецярбургу і іншых «мастацкіх меках» свету. Кандзінскі быў сябрам многіх аб'яднанняў, частку з якіх стварыў сам («Сіні коннік», «Фаланга»), чытаў лекцыі. Асабліва доўга і плённа як выкладчык працаваў у Баўхаўзе — вышэйшай школе будаўніцтва і мастацкага канструявання, якую ў 1933-ім закрылі нацысты.

### АЎТОГРАФ

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі нядаўна выяўлены і расчытаны алоўкавы аўтограф Васіля Кандзінскага на тытульным лісце бельгійскага выдання, якое доўгі час захоўвалася ў замежным фондзе (цяпер — у фондзе навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства). Гэта перыядычнае выданне на французскай мове «*Sélection: Chronique de la vie artistique*» («Выбранае: хроніка мастацкага жыцця»), выйшла ў бельгійскім Антвэрпэне ў 1933 г. Выдавец — «*Éditions Sélection*». На адвароце тытульнага ліста канкрэтызавана ў дужках, што гэта ліпеньскі сшытак (нумар) «*Sélection*»: «*Julliet 1933*».

Сшытак 14 цалкам прысвечаны творчасці Васіля Кандзінскага. Яго імя — прадстаўніка нямецкага мастацтва — пададзена па-нямецку: «*Wassily Kandinsky*». На час выхаду гэтага тэматычнага зборніка Кандзінскаму было 66 гадоў і ён ужо з'яўляўся сапраўдным патрыярхам абстрактнай школы. Сярод аўтараў артыкулаў і іншых матэрыялаў — Уіл Грохман (Берлін, Германія), Альберта Сарторыс (Мілан, Італія), Дыега Рывера (Сан-Францыска, Мексіка), жанчыны Элізабэт Лютэр Кэры (Нью-Ёрк, ЗША), Галка Э. Шаер (Галівуд, ЗША) і іншыя.

Папярэднія сшыткі «*Sélection*», як сведчыць пранумараваны спіс, былі прысвечаны творчасці такіх асоб, як Фернан Лежэ, Восіп Цадкін, Марк Шагал і многім іншым еўрапейскім мастакам, скульптарам і прадстаўнікам дэкаратыўнага мастацтва.




*Вокладка часопіса «Sélection: Chronique de la vie artistique» («Выбранае: хроніка мастацкага жыцця»), дзе не так даўно выяўлены аўтограф В. Кандзінскага.*

Аўтограф Кандзінскага — дарчы надпіс на французскай мове. Ён складаецца з 4-х кароткіх радкоў. Выкананы простым алоўкам, які быў заўсёды ў мастака пад рукой. Кандзінскі піша: «*Monsiuer Alphonse Kann, / avec salutations très distingués / Kandinsky / Berlin Nov. 33*» («Спадару Альфонсу Кану, / з адмысловым прывітаннем / Кандзінскі / Берлін Ліст. 33»). Гэты надпіс быў зроблены ў Берліне ў лістападзе 1933-га, калі Кандзінскі, гнаны нацыстамі як прадстаўнік «дэгенератыўнага мастацтва», рыхтаваўся пакінуць Германію і змяніць нямецкае грамадзянства на французскае.

Пакідаючы з рускай жонкай Нінай Кандзінскай (Андрэеўскай) Германію, мастак, магчыма, распрадаваў свае творы прыватным калекцыянерам. Мы высветлілі, што адрасат



*Партрэт Васіля Кандзінскага з часопіса «Sélection: Chronique de la vie artistique» («Выбранае: хроніка мастацкага жыцця»).*

Кандзінскага — вядомы французскі калекцыянер карцін і арт-дылер Альфонс Кан, на сядзібе якога захоўвалася перад Другой сусветнай вайной да дзвюх тысяч карцін і скульптур. На жаль, сядзіба была абрабаваная немцамі ў час вайны, і амаль усе мастацкія творы, за выключэннем некалькіх дзясяткаў, дагэтуль не знойдзеныя і не вернутыя нашчадкам калекцыянера. Сам А. Кан з 1938 года жыў у Лондане (Вялікабрытанія), памёр у 1948 г.

Гэта рэдкае выданне з красамоўнай назвай «*Sélection*» («Выбранае», ці «Выбар») дапоўнена біяграфічнай нататкай, бібліяграфіяй кніг і каталогам графічных работ Кандзінскага (за 1902 — 1932 гг.). Выданне багата ілюстраванае. Усе малюнкі чорна-белыя. Гэта копіі графічных работ і навуковых малюнкаў-схем мастака, прадстаўленых як у тэксце, так і на асобна ўклееных лістах мелаванай паперы (дагэтуль асляпляльна белай). На апошнім мелаваным лісце выявай пададзены фотапартрэт самога Васіля Кандзінскага з подпісам: «*Wassily Kandinsky. (Photo Hugo Erfurth, Dresden)*». На фотаздымку мы бачым мастака ў сталым веку, у белай кашулі, паласатым гальштуку, у круглых, амаль нябачных акулярах, з пасівелымі валасамі. Ён сфатаграфаваны на фоне адной з карцін. (На жаль, фон размыты.)

Выданне ўтрымлівае 96 старонак тэксту і ілюстрацый на паперы розных гатункаў, а таксама 4 старонкі выдавецкай рэкламы. Многія лісты гэтага ўнікальнага часопіса-сшытка так і засталіся неразрэзанымі. Відаць, той, каму ён быў падораны, так і не прагледзеў экзэмпляр як след (ці, наогул, не атрымаў). А чытачы бібліятэкі, дзе выданне апынулася пасля, яго амаль не заказвалі.

Тэма, якімі шляхамі часопіс «*Sélection*» з аўтографам Васіля Кандзінскага трапіў да нас, у Нацыянальную бібліятэку Беларусі, патрабуе асобнага вывучэння.

### ЭКСЛІБРЫС

Усё жыццё Васіль Кандзінскі, магчыма, пад уплывам вышэйшай юрыдычнай адукацыі і этнаграфічных экспедыцый, імкнуўся да паляпшэння жыцця грамадства і нават шырэй — чалавецтва. Таму нядзіўна, што яшчэ адной кнігай з яго асабістай бібліятэкі, выяўленай намі напрыканцы 2014 года, стаў экзэмпляр работы англійскага эканаміста Джона Аткінсана Гобсана «*The Evolution of Modern Capitalism: a Study of Machine-Production*» (Лондан, 1894 г.) («Эвалюцыя сучаснага капіталізму: даследаванне машыннай вытворчасці»). Гэта першае выданне дадзенай працы на мове арыгінала.

Пераплёт каленкоравы, чырвона-карычневага колеру. Усе літары на верхнім вечку пераплёту цісненыя золатам. На карэньчыку ўнізе прыклеены маленькі белы ярлычок з лічбамі чорнай фарбай: «3 / 277». Падобна на тое, што гэта аддзел і нумар кнігі («кніжны адрас») у былой бібліятэцы Васіля Кандзінскага. Відаць, работы па эканоміцы былі ў яго кнігазборы ў 3-м аддзеле, які налічваў каля трох соцень адзінак захоўвання. Дадзенае выданне Гобсана маецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў адным экзэмпляры, і гэта кніга з бібліятэкі Кандзінскага (!). Экзэмпляр з унікальным экслібрысам мастака перададзены ў асноўны фонд з дублетнага бібліятэчнага фонду, пра што гаворыць штамп на адвароце тытульнага ліста: «Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна (дублет)».

На гэтым асобніку фундаментальнай работы англійскага эканаміста, справа на верхнім форзацы са шчыльнай белай паперы, стаіць імянная ўладальніцкая пячатка ў форме паўкруга без рамкі. Надпіс рэльефны (выпуклы), выкананы сухім цісненнем без фарбы: «Василій Васильъвичъ / Кандинскій» (з ужываннем літар дарэвалюцыйнага правапісу). Мініяцюрная кампазіцыя з умоўных кветак на ніжняй гарызантальнай рысе. Памер пячаткі — 17 на 37 мм. Гэты кніжны знак нам быў раней не вядомы. Магчыма, Васіль Кандзінскі пазначаў ім не толькі кнігі, але і іншыя дакументы, у тым ліку свае графічныя работы.

Адметна, што эканаміст Гобсан лічыў сацыялізм непазбежным вынікам развіцця людскога грамадства. У свой час ён быў у нейкім сэнсе ерэтыком з «тэорыяй недаспажывання», ці «мінімалізму ў пакупніцкай дзейнасці». Да мінімалістычных, але моцных сродкаў выяўлення імкнуўся на працягу ўсяго творчага шляху і Васіль Кандзінскі, які прызнаваўся: «Мой излюбленный модус — краткость. <...> Краткость требует неуточненности ...».

Шлях, па якім трапіла да нас у сховішча кніга Дж. А. Гобсана з бібліятэкі Васіля Кандзінскага, не выяўлены.

У Нацыянальнай бібліятэцы краіны ўзята на асаблівы ўлік і яшчэ адно выданне, звязанае з імем Кандзінскага. Гэта шматстаронкавае гісторыка-юрыдычнае даследаванне Аляксандра Філіпава, прыват-дацэнта Імператарскага Маскоўскага ўніверсітэта, якое выйшла ў Маскве ў 1891 г. і надрукаванае ва ўніверсітэцкай друкарні. Назва кнігі на рускай мове: «О наказании по законодательству Петра Великого, в связи с реформою». На тытульным лісце над назвай выкананы дароўны надпіс карычневым ад часу чарнілам: «Глубокоуважаемому Василию Васильеви<чу> Кандинскому на добрую па<мять> от авт<ора>».

Гэты асобнік змяшчае шматлікія падкрэсліванні, адкрэсліванні, чытацкія паметы («плюс», лацінскія «*N*», «*NB*») і маргіналіі ў дарэвалюцыйным правапісе, выкананыя простым, а таксама чырвоным і сінім алоўкамі.

Аляксандр Філіпаў (1853 — 1927) — юрыст і гісторык права, выкладчык юрыдычнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта. Пад яго кіраўніцтвам Васіль Кандзінскі напісаў навуковую працу «О наказаниях по решению волостных судов Московской губернии» (Масква, 1889 г.). Пра яго ж мастак адгукаўся ў сваіх «Ступенях...»: «С сердечной признательностью вспоминаю я полную истиной теплоты и горячности помощь проф. А. Н. Филиппова (тогда ещё приват-доцента), от которого я впервые услышал о полном человечности принципе «глядя по человеку», положенном русским народом в основу квалификации преступных деяний и проводившемся в жизнь волостными судами».

Як кніга трапіла да нас? Магчыма, увесь час пераязджаючы з дарэвалюцыйнай Расіі ў Германію і з Германіі ў абноўленую Расію, Кандзінскі аддаў гэтае выданне ў бібліятэку Маскоўскага ўніверсітэта, штамп якой прысутнічае на старонках экзэмпляра. А адтуль яна трапіла, напрыклад, у 1950-я гг., у перыяд аднаўлення кніжнага фонду, знішчанага ў гады Другой сусветнай вайны, у кнігасховішча Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна (цяпер — Нацыянальнай). Верагодна, нават стараннем тагачаснага дырэктара галоўнай беларускай кніжніцы Восіпа Сіманоўскага і каманды спецыялістаў, якая працавала з маскоўскімі калегамі.

Выяўлены экслібрыс мастака Васіля Кандзінскага адсутнічае ў вядомым выданні С. Багамолава «Российский книжный знак. 1700—1918» (Масква, 2010), дзе ўлічана 20 тысяч кніжных знакаў. Адсутнічае, магчыма, таму, што мастак Васіль Кандзінскі ў акадэмічных колах лічыцца найперш нямецкім творцам, бо прыняў у 1928-м нямецкае грамадзянства, а з 1939-га, ратуючыся ад фашыстаў, — французскае. Ён памёр у Францыі ў 1944 годзе і пахаваны на новых могілках непадалёк ад Парыжа.

**Людміла СІЛЬНОВА,**
**вядучы бібліёграф навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі**



## Мікола ЛЯВОНЧЫК:

# «Не разумею тых, хто прагне званняў»

**Артыст, выкладчык, чалавек, якому баліць… тэатр! Дзіва што: амаль сорак гадоў аддадзена сцэне ТЮГа. Праўда, ён мог і не прыйсці сюды 1 жніўня 1977 года, калі б… Пра дзіўныя акалічнасці лёсу чытачам «ЛіМа» напярэдадні 60-годдзя і чарговай у сваім жыцці прэм'еры распавядае Мікола Лявончык:**

— У свой час, пасля школы, я паступаў у Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут, на гістарычны факультэт. Усё здаў на чацвёркі: нямецкую мову, рускую, гісторыю… І паўбала мне не хапіла! Праўда, пасля амаль 13 гадоў там выкладаў… *(Усміхаецца.)* Але тады я праз год паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.

**— Хлопчык з вёскі Скібічы Драгічынскага раёна, які не бачыў да гэтага практычна ніводнага спектакля?**

— Ну, нейкія «выязныя» пастаноўкі да нас у клуб дабіраліся. Але галоўнае, што мяне падштурхнула, гэта словы аднаго берасцейскага рэжысёра, які, пабачыўшы мяне ў школьнай п'есе, заўважыў: «З гэтага хлопца нешта будзе. Яму трэба паступаць у тэатральны…» Праўда, калі туды прыйшоў, Ілья Львовіч Курган (ён у нас выкладаў сцэнічную мову) сказаў: «Хлопча, з якога ж лесу ты выйшаў!» Пэўна, мая «неабцясанасць» сыграла мне на руку: Вера Паўлаўна Рэдліх, вучаніца Станіслаўскага, узяла мяне на курс.

**— Чым жа вы так уразілі прыёмную камісію?**

— Памятаю, песню спяваў: «Вы слыхали, как поют дрозды…» Але ж рускай мовай я тады амаль не валодаў: дома мы размаўлялі «на палескай», так што давялося вучыцца… Наш куратар Аўгуст Мілаванаў пасля першага «адсеву» студэнтаў за прафнепрыдатнасць мяне, аднаго з тых, што засталіся, ахарактарызаваў так: «Усе прайшлі тры кіламетры, а Лявончык — трыццаць тры!» Пасля так і дражнілі: «О, «трыццаць тры кіламетры» пайшоў!» *(Смяецца.)*

**— І так дайшлі да ТЮГа?**

— Розныя тэатры запрашалі: і Брэсцкі, і Бабруйскі, і Гродзенскі. Але калі прапанаваў прыйсці галоўны рэжысёр ТЮГа Рыгор Іванавіч Баравік, я зразумеў, што тут мне адразу дадуць сыграць. Бо ўжо бачыў шматлікія прыклады таго, як артысты гадамі чакалі роляў…

**— Першую сваю ролю памятаеце?**

— Так! Гэта быў Тата-Капітан. На тым спектаклі, дарэчы, мяне ўпершыню «раскалоў» дзіцёнак. Я выходзіў такі абараваны, з бакенбардамі, прамаўляў тэкст, а хлопчык з залы выгуквае: «Я таксама хачу быць капітанам — вазьмі мяне з сабой!» Рэжысёр, помню, сварыўся на мяне тады за смех…

**— Ці былі ролі, да якіх даводзілася ісці «са скрыпам»?**

— Натуральна. Тэатр — гэта ж не толькі храм мастацтва, але і прадпрыемства, дзе ёсць загад, што цябе прызначылі на нейкую ролю…

**— Альбо не прызначылі… Была такая крыўда?**

— Неаднойчы… Калісьці марыў сыграць Дон Кіхота. Але, відаць, ужо не атрымаецца… Хаця ў ТЮГу цяпер рыхтуюцца ставіць яго, але ж узрост — 37-гадовага Пушкіна я перастаў іграць два гады таму…

**— Якая розніца, колькі артысту гадоў! Можна ж сыграць…**

— Не, тут вочы па-іншаму павінны гарэць. Іншы погляд на жыццё мусіць быць… Калі чытаў «Мадонну» сваёй дваццаці-гадовай партнёрцы па сцэне, якая ўвасабляла вобраз Наталі, у мяне было адчуванне няправільнасці, няёмкасці: гэта не для публікі, нават цяжка патлумачыць…

**— А як гарэлі вашы вочы ў «Запісках вар'ята»!**

— Тут іншы жанр і іншае стаўленне да майго персанажа. З яго можна і пасмяяцца, і пашкадаваць…

**— Галоўнае, яму (і вам) ёсць што сказаць гледачу.**

— Правільна кажуць: «Можаш не пісаць — не пішы». Не маеш, чаго сказаць, не выходзь на сцэну!

**— Вы ж, спадзяюся, не ўсё яшчэ сказалі?**

— Далёка не ўсё! Але ў артыста ёсць розныя нагоды для «маўчання»: бывае, што хочаш — і не даюць, часам не бярудь тыя п'есы, у якіх ты мог бы быць заняты, а здараецца, табе проста не хочацца іграць — і нармальна сябе адчуваеш. Але шмат часу без работы — гэта жудасна. Чаму артысты і спяваюцца, і з жыцця сыходзяць? Таму што работы няма!

**— У вас хапае работы? Ці запрашаюць у кіно, напрыклад?**

— У свой час столькі немцаў пераіграў!.. Але калі раней былі кінапробы, то зараз прыдумалі нейкія «кастынгі»: маўляў, «вазьміце мяне»… Я на такія не хаджу. Калі буду патрэбны, дык знойдуць, а не трэба, дык і не трэба! Слава — паняцце дурное… Мне мой педагог калісьці сказаў: «Ты кожны дзень павінен даказваць, што ты артыст». Не разумею і тых, хто прагне званняў: калі ў цябе ёсць Прозвішча — якое можа быць званне! Ідуць жа не на званне…

**— І моладзь не ганіцца за званнямі?**

— Ім важна — больш работы. Дарэчы, у «Сіняй птушцы», дзе я іграю «Галоўнае хатняе шчасце», мае партнёркі — маладыя дзяўчаты. Дык памочнік рэжысёра так і аб'яўляе: «Сцэна шостая. Падрыхтавацца: Мікалай Мікалаевіч і дзяўчынкі». *(Смяецца.)*

**— А ў чым галоўнае шчасце для артыста?**

— Калі выходзіш на сцэну і можаш выказаць стаўленне да жыцця, калі ёсць матэрыял, які цябе грэе і хвалюе.

**— А сёння ёсць да каго звяртацца?**

— Канечне, у нашым тэатры мала выпадковых гледачоў. А невыпадковым цікава слухаць.

**— Нават калі ім пяць гадоў?**

— З гэтымі якраз прасцей. Іх цікавіць усё. А калі малому гледачу будзе нецікава, то ён не дасць іграць, будзе перашкаджаць… Цяжэй бывае з публікай 14 — 16 гадоў. Але калі ў цябе ёсць што сказаць, то і яны будуць уважлівыя.

**— Ці адрозніваецца глядач сённяшні ад таго, што быў 20 — 30 гадоў таму?**

— Асноўныя праблемы нязменныя. Да прыкладу, «Зацюканы апостал» А. Макаёнка: абсалютна не мае значэння, дзе «сядзіць» дзіця: у тэлевізары ці ў камп'ютары — галоўнае, што яму і тады, і цяпер не хапае зносін з бацькамі.

**— Але ж Макаёнак — класік. Чаго бракуе сучаснай аўтарскай п'есе, каб яна часцей з'яўлялася на сцэне?**

— Мне цяжка сказаць. Каб напісаць п'есу, аповесць ці раман, трэба ведаць, што хочаш сказаць. Аўтар ставіць праблему, за якую можа атрымаць — ці прыз, ці па галаве… І яшчэ я вельмі



*Сцэна са спектакля «Пан міністар». З Аляксандрам Палазковым.*

шкадую, што ў нас няма цэнзуры. У тым сэнсе, што прыходзіць цэнзар з пэўным наборам патрабаванняў — і ты імкнешся ўкласціся ў гэтыя патрабаванні. Але… Калі дзяржава дае грошы на напісанне п'есы, напрыклад, то яна мусіць адсочваць увесь працэс, а не казаць пасля: «Што ж вы нарабілі!» Гэта таксама трэба разумець.

**— Якой жа, на вашу думку, мусіць быць сучасная дзіцячая п'еса?**

— Адно ведаю: яна павінна быць прыгожай. Каб з яе атрымаўся маляўнічы спектакль. Каб героі імкнуліся да нечага добрага, светлага. Каб дзецям было радасна і хацелася вярнуцца…

**— Выхоўваць тэатр больш не павінен?**

— Ён мусіць быць прыкладам — іншага жыцця, цікавага…

**— Вашыя студэнты, якім 13 гадоў выкладалі, прыводзяць у ТЮГ сваіх дзяцей ды вучняў?**

— На жаль, сёння ў педуніверсітэт мала хто ідзе па прызванні… Але з тымі, хто зрабіў свядомы выбар, зносіны падтрымліваю. Да слова, мог бы зборнік анекдотаў выдаць са сваёй выкладчыцкай практыкі. Ганаруся тымі, хто добра ведае і беларускую, і англійскую мову. Памятаю, быў выпадак: ідуць перада мною студэнты, размаўляюць па-беларуску, да іх звяртаюцца па дапамогу нейкія людзі па-англійску — і тыя свабодна ім тлумачаць. Хіба гэта кепска?

**— Можа, Тэатр юнага гледача дапаможа выхаваць такіх людзей?**

— Шасцідзясяты сезон мы гаворым са сваім гледачом па-беларуску. Больш за тое, мы аб'ездзілі розныя краіны і нідзе не мелі моўных праблем з гледачом. Галоўнае ж — любоў да тэатра. А ёй трэба вучыць. З дзяцінства! І мы, артысты, мусім імкнуцца не падмануць свайго гледача.

**— Калі б вам нейкай найвышэйшай істотай было прапанавана: «Сыграеш за жыццё адну ролю. Але так, як ніхто і ніколі». Што б вы выбралі: Пушкіна, Міхала ці?..**

— Відаць, выбраў бы штосьці, чаго яшчэ не іграў. Бо ўсе мае ролі мне дарагія — кожная па-свойму. І Міхал, і Пушкін, і Папрышчын — гэта ж усё я! Але тое, што не адбылося, вабіць найбольш… У «Зацюканым апостале», які мы іграем 1 і 2 кастрычніка, ёсць эпізод, калі Дачка скардзіцца мне, Бацьку: «Ты ўсё Сыну носіш падарункі, а як жа я?» Я кажу: «Дачушка мая, пачакай, будзе і табе. Галоўнае, дачушка, не сам падарунак, а чаканне яго, надзея, што ты яго атрымаеш. Чаканне падарунка і ёсць шчасце. Так што чакай, спадзявайся і будзь шчаслівай». Я — шчаслівы!

**Таццяна СІВЕЦ**

## Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

### Установа адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі» аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад (да 5-ці гадоў) прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, хто мае мінскую рэгістрацыю) з далейшым заключэннем кантракта ў выпадку выбрання на тэрмін, вызначаны Наймальнікам:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | кафедра канцэртмайстарскага майстэрства | — загадчык кафедры (1,0 шт. адз.) |
| 2 | кафедра беларускай музыкі | — дацэнт (0,5 шт. адз) |
| 3 | кафедра фартэпіяна | — выкладчык (2,5 шт. адз.) |
| 4 | кафедра аркестравага дырыжыравання | — дацэнт (1,0шт. адз.) |
| 5 | кафедра струнных смычковых інструментаў | — загадчык кафедры (1,0 шт. адз.) |
| 6 | падрыхтоўчае аддзяленне | — старшы выкладчык (1,0 шт. адз.) |
| 7 | кафедра спецыяльнага фартэпіяна | — прафесар (1,5 шт. адз.)<br>— дацэнт (1,0 шт. адз.)<br>— старшы выкладчык (1,5шт. адз.) |
| 8 | кафедра камернага ансамбля | — выкладчык (1,0 шт. адз.) |
| 9 | кафедра драўляных духавых інструментаў | — загадчык кафедры (1,0 шт. адз.)<br>— прафесар (1,0 шт. адз.) |
| 10 | кафедра спеваў | — прафесар (1,0 шт. адз.) |
| 11 | кафедра медных духавых і ўдарных інструментаў | — выкладчык (1,0 шт. адз.) |
| 12 | кафедраópернай падрыхтоўкі і харэаграфіі | — прафесар (1,0 шт. адз.) |
| 13 | кафедра тэорыі музыкі | — загадчык кафедры |
| 14 | кафедра струнных народных шчыпкова-ўдарных інструментаў | — загадчык кафедры (1,0 шт. адз.)<br>— дацэнт (1,0 шт. адз.) |
| 15 | кафедра музыкальнай педагогікі, гісторыі і тэорыі выканальніцкага мастацтва | — загадчык кафедры (1,0 шт. адз.) |

# Што сёння ў трэндзе?

**Напрыканцы жніўня мы рабілі агляд самых купляных і чытаных выданняў мінскіх кнігарняў. Спісы атрымаліся… нечаканыя! А на пачатку восені і навучальнага года стала цікава, якія кнігі папулярныя сярод чытачоў мінскіх бібліятэк. Для даследавання выбралі адны з самых наведвальных кніжніц сталіцы — абласную бібліятэку імя А. С. Пушкіна (вул. Гікала, 4) і дзіцячую бібліятэку № 2 (вул. К. Чорнага, 10).**

Па-першае, у абедзвюх установах вельмі ўважлівыя і дасведчаныя супрацоўнікі. Шчыра цешыць, з якой адданасцю яны ставяцца да кніг, чытачоў, сваёй прафесіі. У бібліятэчных залах пануе па-сапраўднаму ўтульная, нават крыху сямейная атмасфера, губляецца адчуванне часу і ўвесь дзень можна прасядзець за добрай кнігай.

У дзіцячай бібліятэцы № 2 заўсёды з радасцю чакаюць наведвальнікаў. Праўда, на пачатку навучальнага года ўдзень маленькіх чытачоў у зале не знойдзеш — усе ў школе. Затое на летніх канікулах тут аншлаг. Загадчыца бібліятэкі Людміла Лустава з задавальненнем узгадвае тыя спякотныя ва ўсіх сэнсах дзянькі: «Вельмі радасна, што дзеці сёння не забываюць пра кнігі і шмат чытаюць. За гэта трэба падзякаваць настаўнікам і бацькам — шмат школьнікаў прыходзілі са спісамі літаратуры на лета, дзе былі як праграмныя, так і пазапраграмныя творы». Асноўная чытацкая аўдыторыя дзіцячай кніжніцы — дашкольнікі і вучні 1 — 5 класаў. Для такіх чытачоў галоўнае не столькі тэкст выдання, колькі мастацкае афармленне, таму вялікую папулярнасць маюць яркія, каляровыя выданні з прыгожымі ілюстрацыямі і незвычайным аздабленнем. Самыя чытаныя аўтары сярод малодшых школьнікаў — Раіса Баравікова, Эдзі Агняцвет, Агнія Барто, Віталь Біянкі, Віктар Драгунскі.

Падлеткаў больш цікавіць фантастыка і прыгодніцкая літаратура, таму добра бяруць кнігі Жуля Верна і Янкі Маўра. Старэйшыя школьнікі цікавяцца таксама гістарычнымі творамі: не пыляцца доўга на паліцах кнігі Уладзіміра Караткевіча і Людмілы Рублеўскай.

Ну і класіка заўсёды ў трэндзе, бо складае львіную долю абавязковай школьнай праграмы. Супрацоўнікі дзіцячай бібліятэкі № 2 кажуць, што да іх часам завітваюць і дарослыя чытачы, бяруць Сэлінджэра ці Хэмінгуэя і сцвярджаюць, што чытаць — гэта модна. Такая акалічнасць толькі радуе бібліятэкараў.

У абласной бібліятэцы імя Пушкіна мяне больш за ўсё зацікавіў аддзел краязнаўчай літаратуры. Маладыя, ветлівыя супрацоўнікі з задавальненнем і імпэтам дапамагаюць наведвальнікам. У адрозненні ад дзіцячай кніжніцы, агульны партрэт чытача вызначыць аказалася даволі складана — вельмі разнастайная аўдыторыя і тэматыка выданняў. Але не можа не радаваць той факт, што найбольшай папулярнасцю карыстаецца гістарычная і этналагічная літаратура, асабліва сярод студэнтаў і моладзі.

Не здзіўляе і чытацкая актыўнасць на кнігі пра народныя строі, сімволіку і арнаменты — мода на вышыванку не праходзіць, набірае моц. Многія цікавяцца выцінанкай, таму часта запытваюць адмысловую літаратуру.

У юбілейны год Перамогі кнігі на ваенную тэматыку — адны з самы чытаных. Лідзіруюць сярод мастацкай літаратуры пра вайну творы Васіля Быкава, а з дакументальных выданняў самая папулярная — серыя кніг «Памяць»: у абласной бібліятэцы сабраны ўсе кнігі па Мінскай вобласці. У зале перыёдыкі можна знайсці раённыя газеты Міншчыны, таму многія прыходзяць чытаць навіны са сваёй малой радзімы.



Фота Кастуся Дробава.

У сталіцы некалькі дзясяткаў бібліятэк, пра кожную з іх можна напісаць не па адным артыкуле, але лепш адзін раз наведаць, чым сто разоў прачытаць. Завітайце ў найбліжэйшую да дома ці працы кніжніцу — упэўнена, вы станеце яе пастаянным чытачом.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Найперш — класіка

Эліна Вялесік вучыцца ў 8 «Б» класе Ваўкавыскай гімназіі № 2. Аддае перавагу не інтэрнэту, а чытанню. Прычым не толькі цудоўна чытае ўрыўкі з розных твораў, але і сама піша вершы і прозу.



Нядаўна ездзіла ў Шчучын. У конкурсе «Жывая класіка», які прайшоў у межах Дня беларускага пісьменства, атрымала дыплом І ступені і каштоўныя кнігі ў падарунак. Падчас імпрэзы чытала ўрывак з кнігі Уладзіміра Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі». Дарэчы, Эліна ўдзельнічала ў гэтым конкурсе другі раз.

Кнігі дзяўчынка любіць з маленства. Вось як яна гаворыць пра сваё захапленне: «Вельмі падабаецца наведваць бібліятэкі, хадзіць між стэлажамі, дакранацца да вокладак… Гляджу на кнігу, і яна, нібы магніт, прыцягвае да сябе. Не разумею тых, хто не адрываецца ад камп'ютара. Яны шмат губляюць».

У Эліны нямала творчых задумак, напрыклад, свае вершы пакласці на музыку: дзяўчынка на «выдатна» вучыцца ў музычнай школе.

**Тэрэза КАВАЛЬЧУК,**
**бібліятэкар гімназіі № 2, г. Ваўкавыск**

# Палітра дабрыні

Завітаўшы ў сталічную бібліятэку-філіял № 7 імя Якуба Коласа на мінулым тыдні, можна было пабачыць выстаўку творчасці людзей з абмежаванымі магчымасцямі.

Экспазіцыя падвяла вынікі аднаго з этапаў пятага гарадскога фестывалю «Мастацтва жыць, тварыць мастацтва», які традыцыйна ладзіўся падчас святкавання Дня горада. Журы вызначыла пераможцаў у некалькіх намінацыях, адзначыла аўтараў лепшых работ прызамі і дыпломамі.

Удзел у конкурсе ўзялі дзеці і дарослыя. Было прадстаўлена больш як 100 работ, выкананых у розных тэхніках выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Гэта жывапіс, акварэль, графіка, кераміка, габелен, бісерапляценне, саломка, разьба па дрэве, выцінанка... Разынкай сёлетняй экспазіцыі сталі вышываныя творы: іконы, цацкі і нават касцюмы.

Аўтары работ — людзі з інваліднасцю, многія жывуць у дамах-інтэрнатах. Справіцца з хваробай дапамагае творчасць: некаторыя ўдзельнічаюць у фестывалі не першы год. Выстаўка — добрая магчымасць раскрыць уласны талент, а яшчэ — выратаванне ад адзіноты і паўсядзённасці.

Сёлетняя экспазіцыя стракацела яркімі фарбамі, цікавымі сюжэтамі, непаўторнымі вобразамі. Нельга было прайсці міма пяшчотных акварэлей Івана Пятручыка, экспрэсіўнай графікі Марыны Кажадуб, чароўных габеленаў Надзеі Рэшатавай. Прыцягвалі ўвагу вышытыя крыжыкам пейзажы Ніны Буцэнкі, казачныя карціны Наталлі Невар, жывапіс Аляксандра Шапавалава.

Работы, розныя па прафесійным узроўні і тэматыцы, аб'яднала радаснае ўспрыманне навакольнай рэчаіснасці, светлы настрой, вера ў цуд. Асаблівa уразіла, што некаторыя творцы — невідушчыя, і гэта не перашкаджае ім ствараць выдатныя работы, дзяліцца радасцю і цеплынёй з іншымі.



Ларыса Якубовіч «Лета».



Сяргей Мурашка «Ню».

У бібліятэцы выстаўка размясцілася невыпадкова. Як паведаміла загадчыца сектара ўстановы Лола Іназемцава, кніжніца рэгулярна працуе з пенсіянерамі і людзьмі з абмежаванымі магчымасцямі. Сёння тут дзейнічаюць восем творчых гурткоў.

У ліку арганізатараў выстаўкі — Мінгарвыканкам, Беларускае таварыства інвалідаў, а таксама іншыя аб'яднанні і арганізацыі.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# «КЛУмБа». Студэнцкая

**Год таму на базе Фундаментальнай бібліятэкі БДУ быў створаны клуб аматараў мастацкага слова, які стаў пляцоўкай для дыскусій і сустрэч з вядомымі пісьменнікамі ды прадстаўнікамі іншых прафесій, альтэрнатывай «сцэны» для аўтараў-пачаткоўцаў. А яшчэ — дружнай творчай сям'ёй, што аб'яднала студэнтаў амаль усіх факультэтаў БДУ.**

Дзверы клуба адчынены для тых, хто цікавіцца літаратурнай творчасцю і жадае падзяліцца сваімі літаратурнымі спробамі з сябрамі, хто любіць дэкламаваць, спяваць, пісаць сцэнары, марыць стаць вядучым літаратурна-музычных вечароў і літаратурных конкурсаў. З вялікай цікавасцю «клумбаўцы» ўслухоўваліся ў вершаваныя радкі аднагодкаў, выказвалі меркаванні, спявалі пад гітару, у тым ліку і песні ўласнага аўтарства.

Заканчэнне навучальнага года адзначылі паходамі па месцах баявой славы да мемарыяльнага комплексу «Смаргонь», што захоўвае памяць пра герояў Першай сусветнай вайны, на радзіму Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессе Смаргонскага раёна.

Пад уражаннем паходу па Смаргоншчыне адметныя паэтычныя радкі нарадзіліся ў студэнткі фізічнага факультэта Таццяны Купрыянец, адной з самых актыўных удзельніц «КЛУмБы». Сёлета ў серыі «Мінскія маладыя галасы» выйшаў яе першы паэтычны зборнік пад назвай «Водгукі памяці». Большасць вершаў Тацяны прысвечаны Вялікай Айчыннай вайне.

З моладдзю і паэтамі-пачаткоўцамі сустракаліся старшыня гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў і паэт-лірык, гумарыст Анатоль Зэкаў. Гасцямі клуба былі пісьменнікі Уладзімір Навумовіч і Эдуард Збароўскі.

Многія актывісты клуба друкаваліся ў часопісе «Белая вежа». Акрамя Тацяны Купрыянец, гэта Кацярына Роўда, Аліна Карпіцкая і Марыя Дуднік з філалагічнага факультэта, Ігар Пятровіч (гістфак), Анастасія Каротчыкава і Валерыя Ісаковіч (факультэт міжнародных адносін), Тацяна Цішкевіч (біялагічны факультэт), Фаіна Наканечная (Інстытут журналістыкі).

Кацярына Роўда, заўсёднік клуба, вылучылася сваімі здольнасцямі ў гумарыстычным жанры. Яе вясёлыя замалёўкі друкуе часопіс «Вожык». Кацярына выступіла ініцыятарам і вядучай гульні «Размаўляй са мной па-беларуску», якую «клумбаўцы» прымеркавалі да Дня роднай мовы. Спаборнічалі ў веданні розных рэдкаўжывальных слоў і



*На літаратурнай гульні, прысвечанай юбілею М. Лермантава, «клумбаўцы» аб'ядналіся ў каманду «Кветкавыя ветразі» — і перамаглі!*

словазлучэнняў, прыказак і прымавак, вершаў беларускіх пісьменнікаў.

На роднай мове напісала першую казку «Чароўныя вочы» Аліна Карпіцкая. Гэты твор быў заўважаны выдавецтвам «Мастацкая літаратура» і ўключаны ў чарговы зборнік серыі «Беларуская аўтарская казка». Аліну можна назваць бардам «КЛУмБы»: яе аўтарскія песні, рамантычныя і эмацыянальныя, гучаць даволі часта.

Як сапраўдная эстрадная спявачка, трымаецца на сцэне Аліна Масалава, студэнтка факультэта міжнародных адносін. Аліна — гэта крэатыў, кемлівасць, артыстызм. Асабліва падабаюцца слухачам яе выступленні ў дуэце з саксафаністам Ільёй Візерам, курсантам ваеннага факультэта БДУ, які неаднаразова цешыў «клумбаўцаў» чароўнымі рамантычнымі мелодыямі.

Дзякуючы студэнту гістфака Ігару Пятровічу, які шмат падарожнічае па Беларусі, прыкмячае асаблівасці кожнага мястэчка і шчодра дзеліцца сваімі адкрыццямі з сябрамі, на «КЛУмБе» з'явілася рубрыка «Падарожнічаем разам».

У новым навучальным годзе апанатаныя добрым мастацкім словам юнакі і дзяўчаты хутка зноў збяруцца на «КЛУмБе», каб абмяняцца свежымі ўражаннямі, новымі літаратурнымі творамі. Абмяркуюць, як лепей адсвяткаваць першы дзень нараджэння клуба, які сабраў іх разам.

**Ірына ШКІРОНАК,**
**старшыня клуба, вядучы бібліятэкар Фундаментальнай бібліятэкі БДУ**

*Захапленні*

# Прывабіў край буслiны

**Загадчыца сельскай бібліятэкі аграгарадка Агарэвічы Ганцавіцкага раёна Аксана Карповіч — адна з пераможцаў конкурсу прафесійнага майстэрства «Умельцы Брэстчыны».**


*Фота Аляксея Ганчука.*

…У Агарэвічы Аксана прыехала тры гады таму пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў: Ганцаўшчына — яе малая радзіма.

Дзякуючы маладой супрацоўніцы кніжніцы з'явіліся новыя матэрыялы ў краязнаўчым цэнтры «Буслiны край! Мой вырай і прыстанак». Потым захапіў праект «Дваццаць партрэтаў жанчын XX стагоддзя» — аповед пра землякоў з цікавымі лёсамі. Разам з былой настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Агарэвіцкай сярэдняй школы Леанідай Рапейка стварылі, у прыватнасці, партрэт заслужанага майстра Беларусі Феафаніі Крысюк, вясельныя ручнікі якой вядомыя далёка за межамі краіны.

У кніжніцы з'явіўся пакой рэдкіх выданняў. Мясцовыя жыхары ахвотна адгукнуліся на акцыю «Падары бібліятэцы кнігу». Такім чынам у пакоі апынуліся старадрукі, выданні на замежных мовах, сярод якіх — Біблія на французскай мове, выдадзеная ў 1840 годзе. Ёсць і кнігі з аўтографамі знакамітых людзей. Прынамсі, ураджэнца Ганцавіцкага раёна пісьменніка Віктара Гардзея.

**Галіна МІХАЛЕВІЧ**

*Цікава ведаць*

# Рарытэты Бярэсця

**III Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання» адбылася ў Брэсце — сёлетняй культурнай сталіцы Беларусі. Сярод арганізатараў — Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага.**

Канферэнцыя — працяг даследаванняў, пачатых кніжніцай у 2008, 2012 і 2013 гадах падчас міжнародных навукова-практычных канферэнцый «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання» і міжнароднага «круглага стала» «Брэсцкая Біблія — унікальны помнік культуры XVI стагоддзя: да 450-годдзя з дня выдання».

— У мерапрыемстве бралі ўдзел больш як 50 прадстаўнікоў навуковага свету Беларусі, Украіны, Польшчы, Расіі, Казахстана. Адна з секцый была прысвечана 350-годдзю Брэсцкага манетнага двара і 500-годдзю Мікалая Радзівіла Чорнага. Па выніках канферэнцыі плануецца выдаць зборнік артыкулаў, — паведаміла намеснік дырэктара па навуковай працы Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага Ала Мяснянкіна.

***

Кніжная выстаўка, якая праводзіцца ў межах Года літаратуры ў Расіі пры фінансавай падтрымцы Расійскага кніжнага саюза, адкрыецца 28 верасня ў Брэсцкай абласной бібліятэцы імя М. Горкага. Выданні для экспазіцыі кніжніца атрымае ў падарунак.

Дом рускага замежжа імя А. Салжаніцына за час свайго існавання з 1995 года правёў больш як 150 выставак у 60 краінах свету і перадаў дзясяткі тысяч тамоў кніг сучасных расійскіх выдавецтваў аб'яднанням суайчыннікаў, якія працуюць за мяжой, кафедрам замежных ВНУ, дзе выкладаецца руская мова як замежная. У маі такі падарунак атрымаў Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт.

Чакаецца, што ў прэзентацыі выстаўкі ў Брэсцкай абласной бібліятэцы возьмуць удзел супрацоўнік Дома рускага замежжа, паэт, выканаўца аўтарскай песні, кандыдат гістарычных навук Віктар Леанідаў і пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Юность» Валерый Дудараў.

**Міра ІЎКОВІЧ**

*Ініцыятыва*

# Моладзь чытае дзецям

**Акцыя з такой назвай прайшла ў бібліятэках Магілёва. З юнымі чытачамі сустрэліся прадстаўнікі таленавітай моладзі. У прыватнасці, у бібліятэку-філіял № 4 імя М. Лермантава завіталі акцёры Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра.**

А юныя наведвальнікі Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя К. Маркса выдатна правялі час з Елізаветай Кейзеравай, студэнткай Магілёўскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў, лаўрэатам рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, стыпендыятам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

Вольга Глазкова, навучэнка сярэдняй школы № 34 г. Магілёва, дэпутат Маладзёжнага парламента пры Магілёўскім гарадскім Савеце дэпутатаў, пазнаёмілася з чытачамі бібліятэкі-філіяла № 9.

Госці прачыталі юным магіляўчанам любімыя творы.

**Раіса МАРЧУК**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 3.

# Герой у люструнку оперы

Між тым застаецца толькі два дні да таго, як гаспадар «Паўночных Афінаў» пакіне сямейную сядзібу і пакіруе за мяжу, каб ніколі ўжо не вяртацца. Два напружаныя дні, роўныя вечнасці: насычаныя рамантычнымі эмоцыямі, красамоўствам і музыкай, бязглуздымі жарсцямі ды псіхалагічнымі канфліктамі, ігрой успамінаў і рэфлексій, непрадказальнымі паваротамі стасункаў, учынкаў, падзей. Праз гэты эпізод біяграфіі князя раскрываецца яго бязмежная любоў да Айчыны; прыгожы і самотны, ідэалістычны і супярэчлівы свет нешараговай вытанчанай асобы; надзеі, пакуты, расчараванні, адчай падманутага чалавека — моцнага духам, самаахвярнага патрыёта, змушанага ўсвядоміць і перажыць падзенне Радзімай.

І ўсё гэта — праз пранікнёную рамантычную музыку, красамоўнае, але немудрагелістае гучанне аркестра, крапальны напеўны меладызм, спакроўлены з выразным і трапным вершаваным беларускім словам. Сучасная партытура, напісаная ў даходлівым, дэмакратычным стылі класічных традыцый XIX стагоддзя, узнаўляе інтанацыйную атмасферу тагачаснай эпохі, пэўнага асяроддзя. Прычым кампазітар прынцыпова карыстаўся ўласнай аўтарскай мовай: у оперы няма ні цытат з твораў Агінскага, ні нават намёку на матыў яго самага папулярнага паланэза.



*Кампазітар Алег Залётнеў з партытурай оперы.*

Калегам-аднадумцам удалося стварыць жывы вобраз новага гістарычнага оперпнага героя. І дасягнуць жаданай мэты: разбураючы стэрэатыпнае абывацельскае ўяўленне пра Агінскага як аўтара знакамітага паланэза, праўдзіва паказаць яго велічную, шматгранную і неадназначную постаць. Нашчадак старадаўняга беларускага вялікакняжацкага роду вылучаўся найперш як самаадданы патрыёт, змагар за незалежнасць роднага краю. Грамадскі і дзяржаўны дзеяч, сенатар, дыпламат, высокаадукаваны шляхетны чалавек, эстэт, з маленства далучаны да мастацтва і захоплены музычнай творчасцю, ён усё жыццё аддаў дзеля свабоды Айчыны. Пад ціскам знявражлівых абставін, у палоне палітычнага падману і каварства задуманае ажыццявіць не ўдалося. Ганьбаю быў і шлюб з нявернай жонкай... Аднак сутыкнуўшыся са здрадай і прыніжэннем, ён застаўся патрыётам і захаваў высокае паняцце пра чалавечую годнасць, сумленне, абавязак.

Дарэчы, кожны з аўтараў гэтага праекта мае значны педагагічны досвед і спрычынены да выхавання творчай моладзі: А. Залётнеў ды С. Макарэй выкладаюць у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, Р. Сарока апякуецца навучэнцамі каледжа, кіруе ўдзельнікамі свайго аркестра і музычнага тэатра. І стварэнне новай оперы зрабіла ўплывовы ўнёсак у выхаванне выканаўцаў, узбагаціўшы іх практычны досвед, эрудыцыю, духоўны свет. Наогул, спрычыненыя да гэтага твора выканаўцы і публіка могуць звездаць не толькі радасць адкрыцця новага набытку беларускай культуры, але і далучыцца да жывой гармоніі класічных традыцый, а яшчэ — зацікавіцца малавядомай старонкай роднай гісторыі, якая дае адметны ўзор любові да сваёй зямлі, адданасці радзіме.

Што ж новага адбылося ў творчым жыцці оперы «Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт»? Яе пастаноўка была з трыумфам паказана сёлета ў Брэсце на традыцыйным міжнародным фестывалі класічнай музыкі «Студзеньскія музычныя вечары». У канцэртным выкананні ўрыўкі з оперы гучалі ў Залессі, а таксама — перад расійскай, эстонскай, літоўскай, польскай публікай. Амаль містычным чынам ноты трапілі ў Фларэнцыю, дзе дажываў свой век Міхал Клеафас і дзе на сцяне старога дома колькі часу таму ўсталяваны знак яго апошняга прытулку. Сталася так, што ў Фларэнцыі, у оперным тэатры «Камунале», цяпер працуе выхаванец Маладзечанскага каледжа, частны госць роднага горада, лаўрэат міжнародных конкурсаў Уладзімір Александровіч. Ён запрошаны выканаць галоўную ролю ў сённяшнім спектаклі. Спявак, які з цікавасцю ўзяўся за працу над вобразам новага героя, рыхтаваў партыю разам з італьянскім педагогам-рэпетытарам. І прыроджаны знаўца бельканта выказаў захапленне музычнымі вартасцямі твора з нязвыклым беларускім тэкстам.

Незвычайны герой і яго атачэнне, новы музычна-драматургічны матэрыял уразілі ўсіх, хто шчыраваў над спектаклем. Гэта хормайстар Вера Каханоўская, сцэнограф Вольга Грыцаева, мастак па касцюмах Таццяна Макарэй, балетмайстар Аляксандр Драгамірaў. І добрая сотня выканаўцаў: заслужаны аматарскі калектыў Беларусі, Сімфанічны аркестр Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага, хор і салісты Маладзечанскага моладзевага музычнага народнага тэатра. Пераважна — людзі да 25 гадоў, сённяшнія студэнты, нядаўнія выпускнікі, малады педагогі каледжа.




*Вокладка дыска з відэазапісам прэм'еры.*

«Рэгіянальны» паводле месца нараджэння мастацкі праект выклікаў розгалас і ў сталіцы, і за межамі Беларусі, спраўдзіўся як падзея культурнага жыцця краіны, даўшы фору ў сваім жанры Нацыянальнаму акадэмічнаму Вялікаму тэатру. Нараджэння новай поўнафарматнай нацыянальнай оперы мы чакалі... ажно з мінулага стагоддзя! (Апошняя прэм'ера такога кшталту — «Князь Наваградскі» Андрэя Бандарэнкі — адбылася на сцэне Вялікага тэатра ў 1992-м).

Словам, ёсць спажыва для разваг пра мастацкую ўнікальнасць новай работы, прыцягальную глыбіню яе духоўнага зместу, грамадскую запатрабаванасць у актуальным кантэксце развіцця сучаснай суверэннай Беларусі, высокі патрыятычны сэнс. І вось яшчэ факт, які дае надзею на доўгае жыццё твора. Выдавецтва «Чатыры чвэрці», пры фінансавай дапамозе прадпрыемства «БелГАЗавтосервис», выпусціла ў гожым афармленні партытуру оперы. На вокладцы змешчана знакамітая выява Залесся, выкананая Леанардам Ходзькам. Першы беларускі нотадрук такога кшталту прысвечаны 250-годдзю з дня нараджэння Агінскага.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота аўтара**

# Аўтарскі дыялог

**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва запрашае жыхароў і гасцей Мінска наведаць выстаўку польскіх мастакоў «Сіла абстракцыі». Арганізатарамі праекта выступілі галерэя Ле Гуэрн, Польскі інстытут у Мінску і Музей сучаснага выяўленчага мастацтва пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.**

Пяцёра маладых мастакоў Барташ Какасінькі, Гжэгаж Казэра, Павел Матышэўскі, Іза Рагуцка і Ірміна Стась паспрабавалі адлюстраваць асабістае паняцце абстракцыі, раскрываючы творчасць праз мастацкі дыялог, да якога і запрашаюць беларускага гледача. Іх карціны падзяляюцца на два тыпы: адны насычаны яркімі колерамі, нават не ведаеш куды зірнуць у першую чаргу (Гжэгаж Казэра «Hommaga», Барташ Какасінькі «Без назвы»), другія ж, наадварот, зроблены ў светлых, спакойных танах (Павел Матышэўскі «Сепарацыя», Іза Рагуцка «Я дрэва — II»). Адназначна ацаніць творчасць мастакоў і аб'яднаць іх у адзіную суполку нельга — кожны рэалізуе сябе па-рознаму.

Раней мастакі ніколі не ладзілі агульных выставак — іх аб'яднала аднолькавае светаадчуванне і зацікаўленасць мастацтвам. У Мінск яны прыехалі з куратарам Міхалам Яхулам, які падкрэсліў, што гэтыя мастакі — адны з самых таленавітых аўтараў Польшчы маладога пакалення. Розны стыль і тэхніку выканання работ польскіх майстроў адзначыла і дырэктар Нацыянальнага цэнтра сучаснага мастацтва Наталля Шаранговіч, а старшыня Саюза мастакоў Беларусі Рыгор Сітніца падзякаваў маладым творцам за тое, што яны падарылі Мінску мастацкае свята на ўвесь верасень.



*Ірміна Стась «Арганізм 93». 2015 г.*

Калі вярнуцца да стылю творчасці, то можна адзначыць, што работы Барташа Какасінькага характарызуюцца эксперыментамі з нетрадыцыйным палатном, разнастайнасцю пластычных форм («Без назвы, расколіны»). Творчасць Гжэгажа Казэры сканцэнтравана на тэмах хуткаплыннасці жыцця, смерці, інтымнасці. У цэнтры яго сюжэтаў — адносіны чалавека да свайго асяроддзя («Карпо Авангард», «Кафэ Лебенстэйн»). Мастак Павел Матышэўскі выбраў нетрадыцыйны спосаб працы. Яго работы нібы жывыя сюжэты. Гледзячы, нельга ўтрымацца, каб не дакрануцца («Адтуліна/Кратар», «Ментальныя адросткі»). Мастачка Іза Рагуцка эксперыментуе з камп'ютарнымі праграмамі, спрабуе адлюстраваць прастору ў філасофскім разуменні. А вось Ірміну Стась цікавіць узаемадзеянне розуму і цела чалавека. Прадстаўлены некалькі палотнаў мастачкі з цыкла «Абмен рэчываў», прысвечаныя гэтай тэме.

**Вікторыя АСКЕРА**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Намеснік галоўнага рэдактара
Інеса Яўгенаўна ПЕТРУСЕВІЧ



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 24.09.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 2038.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1490 г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12